Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі



Літ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 13 (4711) 29 сакавіка 2013 г.



5 На любы густ. Агляды літаратурных выданняў


8 2+2=5. Рэжысёр ведае лепей!


13 Катарсіс па-гродзенску

## ВЕЛІКОДНЫЯ ВІНШАВАННІ ЧЫТАЧАМ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Глыбокапаважаныя чытачы газеты «Літаратура і мастацтва»!

«Хрыстус уваскрос!» —
«Сапраўды ўваскрос!»

Гэтымі словамі велікоднага заклiку вiтаю i вiншую ўсiх вас з радасным i збаўчым святам уваскрасення Хрыста, якое прыйдзе да нас у нядзелю, 31 сакавiка. Яно з'яўляецца падмуркам нашай веры, бо калi б Хрыстус не ўваскрос, то марным было б нашае прапаведванне i марнай была б наша вера (пар. 1 Кар 15, 14), — як заўважае св. апостал Павел.

Падзея, якая адбылася дваццаць стагоддзяў таму, працягваецца i закранае кожнага з нас у сакраманце хросту, у якiм мы памiраем для граху i ўваскрасаем да жыцця ў Божай ласцы. Без гэтага ўваходжання ў таямнiцу цярпенняў, смерцi i ўваскрасення Езуса мы б глядзелi на таямнiцу Вялiкадня, як турыст глядзiць на горад праз акно аўтобуса. Гэтым самым не дазволiлi б велiкоднай падзеi агарнуць усе вымярэннi нашага жыцця i ўвайсцi ў яго.

У той самы час дзякуючы Уваскрасенню Хрыста мы маем у Iм надзею, бо Ён не належыць да мiнулага, але ёсць сучаснасцю i вядзе ў будучыню. Таму праўда Вялiкадня адкрывае перад намi новую перспектыву, бо ў нашае жыццё ўваходзiць подых вечнасцi як адказ на мары чалавека пра элiксiр несмяротнасцi. Таму пасланне Вялiкадня заўсёды застаецца актуальным i дае нам новую надзею.

Вера ва ўваскрасенне Хрыста з'яўляецца сутнаснай справай нашага рэлiгiйнага жыцця, бо яна надае яму канчатковы кiрунак. Без яе мы сталiся б падобнымi да капiтана карабля, якi ведае, як iм кiраваць на моры, але не ведае, куды плысцi. Што з таго, што карабель яму паслухмяны i ён ведае, як захоўвацца падчас шторму, калi не можа даплысцi да порта прызначэння?

У гэта радаснае i збаўчае свята святаў яшчэ раз ад усяго сэрца вiншую вас. Вiншую сваiх аднаверцаў — каталiкоў i тых хрысцiян, якiя сёння таксама адзначаюць яго. Вiншую праваслаўных братоў i сясцёр, якiя цяпер перажываюць Вялiкi Пост i духоўна рыхтуюцца да такога ж свята Вялiкадня. Сёлета розніца календароў вельмi вялiкая (Вялiкдзень у праваслаўных 5 мая), але вера ва ўваскрасенне Хрыста застаецца адной i адказнасць за яе — супольнай. Вiншую ўсiх людзей добрай волi. Хрыстус збавiў усiх, i ўсе паклiканы брацць удзел у яго перамозе.

Дарагiя браты i сёстры! Ад пустой грабнiцы Збаўцы з надзеяй i адвагай пойдзем сведчыць праўду ўваскрасення, пойдзем у будучыню — нашу асабiстую i нашай Краiны, верачы, што яна будзе шчаслiвай, бо ўваскрослы Езус ёсць з намi. А калi Бог з намi, то хто супраць нас? (пар. Рым 8, 31).

Поўных Божай ласкi, духоўнай радасцi i супакою свят Хрыстовага Вялiкадня ўсiм вам!

Няхай велiкодны заклiк «Хрыстус уваскрос! Сапраўды ўваскрос!» гучыць на нашай зямлi i будзiць людзей да новага жыцця ва ўваскрослым Езусе! Алiлуя!

**З бласлаўленнем і малітвай**
**Арцыбіскуп**
**Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ,**
**Мітрапаліт Мінска-Магілеўскі**

## ТЫДЗЕНЬ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




Фота Кастуся Дробава

*Пытанне да творцы*

# На якіх кніжках вы гадаваліся?



**Таццяна Дасаева, даследчыца беларускай літаратуры, загадчык кафедры замежнай журналістыкі і літаратуры БДУ:**

— Дома было шмат кніг, таму што бацькі працавалі настаўнікамі. Беларуская, руская, сусветная дзіцячая літаратура, часопісы «Вясёлка», «Весёлые картинки», пазней — «Бярозка»... На маім дзіцячым чытанні вырас і мой сын. Вельмі любіла «Міхасёвы прыгоды» Якуба Коласа, «Палескіх рабінзонаў» Янкі Маўра, дагэтуль памятаю, як бацька прывёз мне кніжку Алены Васілевіч «Расці, Ганька!» — яе вокладку, сваё першае ўражанне... Чытала Маршака, Гайдара, крыху пазней — Горкага і Чэхава, захаплялася казкамі Братоў Грым, Шарля Перо, гісторыямі пра Рабінзона Круза і Гулівера. А былі яшчэ чароўныя зборнікі казак народаў свету, паданняў і міфаў Старажытнай Грэцыі!..

Я бязмежна ўдзячная бацькам за шчасце дзяцінства — побач з прыгожай прыродай, у святле гэтых кніг.



**Іскуі Абалян, спявачка:**

— Я пачала чытаць вельмі рана, таму не памятаю, што дакладна. Памятаю ўжо спелыя, свядомыя ўражанні — ад «Авадня» Э. Войніч, рамана Б. Васільева «А досвіткі тут ціхія...» Чытаць шмат не было асабліва калі — заняткі ў музычнай школе займалі амаль увесь мой час. Да таго ж, па натуры я не вельмі заўзятая чытачка. Калі што востра цікавіць — мяне сапраўды не адарваць ад кніжкі, але часцей пачынаюць ахопліваць уласныя думкі, і я «выбываю» з сюжэта.

Сваёй дачцэ я чытала вельмі шмат, з першага года жыцця. Маршака, Агнію Барто — увогуле класічную дзіцячую літаратуру, якая ўплывае на выхаванне асобы, кранае дзіцячы розум. Вельмі любілі чытаць «Шкодныя парады» Рыгора Остэра — для непаслухмяных дзяцей, якія звычайна робяць усё насуперак парадам дарослых.



**Аляксей Дудараў, драматург, пісьменнік:**

— Я вырас на казках матулі і бабулі. На беларускамоўных народных казках. Там дзейнічалі сілы добрыя і сілы злыя. Дабро натуральна перамагала зло. У гэтых казках прысутнічаў прыродны пачатак і ўвогуле тое лепшае, чым дзіця павінна жыць. Ужо ў школе захапляўся «Хлопчыкам і лётчыкам».

Сённяшнія дзеці выхоўваюцца часцей на заходняй прадукцыі. Не думаю, што яна прыжывецца ў нас. Я не супраць Захаду, але супраць Зла, якое ў душах людзей не павінна прысутнічаць. Супраць таго, што ў псіхіку маленькага чалавека пранікае тое, што ён увогуле асэнсаваць не здольны.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# У творцаў — плюс 18

На гэтым тыдні адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Ірына ТУЛУПАВА**

На пачатку пасяджэння членам Прэзідыума быў абраны Ігар Лапцёнак, як новы член Прэзідыума прысутным была таксама прадстаўленая Ліліяна Анцух.

Адно з галоўных пытанняў — выкананне рашэнняў снежаньскага Пленума СПБ. Дакладчыкам выступіў старшыня Мікалай Чаргінец. У прыватнасці, ён падкрэсліў працу пісьменнікаў на XX Мінскай міжнароднай выстаўцы-кірмашы: у выставачным павільёне, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна, Доме літаратара. Не так даўно завяршыла працу ў Маскве выстаўка «Кнігі Расіі», дзе пабывалі нашыя выдаўцы. Сёлета ўпершыню дэлегацыя Беларусі прысутнічала на Міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы на Кубе. Мікалай Чаргінец звярнуў увагу на непадробную цікавасць да беларускай кнігі з боку насельніцтва Вострава Свабоды і паведаміў, што беларускія літаратары атрымалі афіцыйнае запрашэнне на творчую канферэнцыю, якая будзе праходзіць на Кубе ў наступным годзе.

Мікалай Чаргінец заклікаў пісьменнікаў больш актыўна працаваць па прапагандзе сваёй творчасці: праводзіць сустрэчы, пісаць анатацыі на новыя кнігі (з тым, каб пазней распаўсюджваць іх у бібліятэках).

Разглядалася пытанне аб правядзенні Рэспубліканскага паэтычнага форуму «Багдановіч». З падобнай ініцыятывай звярнулася ў СПБ беларускае бізнес-супольніцтва. Мікалай Чаргінец прапанаваў разгледзець магчымасць заснавання асобнай прэміі ў галіне прозы.

У раздзеле «Рознае» члены Прэзідыума абмеркавалі пытанні ўзнагароджання юбіляраў медалём «За вялікі ўклад у літаратуру», увекавечання памяці творцаў (у тым ліку магчымасць устанаўлення на адным з дамоў у Мінску памятнай дошкі Анатолю Вялюгіну), змянення памеру членскіх узносаў. У шэрагі СПБ прыняты 18 творцаў — іх імёны вы знойдзеце ў наступных нумарах «ЛіМа».

# «Беларускай душы матыў»

Пісьменнік Навум Гальпяровіч разам з беларускім паэтычным тэатрам аднаго акцёра «Зьніч» да Сусветнага дня паэзіі зладзілі вечарыну «Я ад дрэва твайго...».

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Галоўнымі асобамі былі спадар Навум і бард Аляксей Нежавец. Музыка ўпадабаў вершы Н. Гальпяровіча больш як год таму, пазнаёміліся ж яны значна пазней. Навум Гальпяровіч прыгадаў нават, як гасцяваў у стрыечнага брата ў Севастопалі і брат запытаўся: «А ці ведаеш ты, што ў вас ёсць такі бард — Аляксей Нежавец?» Не ведаў.

Вечарыну пабудавалі «ў шахматным парадку»: колькі вершаў, дзве-тры песні — і гэтак далей. Дарэчы, вершы спадар Навум чытаў са сваёй новай кнігі «Сюжэт для вечнасці».

Як сказаў сам паэт, адмыслова тэкстаў для песень ён не пісаў. Толькі аднойчы разам з кампазітарам Уладзімірам Івановым яны «зрабілі» песню «Не забывай мяне ніколі», якую цяпер выконвае Руслан Аляхно. Быў яшчэ адзін выпадак. Эстонскі кампазітар Март Сільмер у свой час стварыў кампазіцыю на верш «Сабор» (а верш немалы), выконваў гэты твор... эстонскі мужчынскі хор. Наведваў ён і Мінск.

Спадар Навум пазнаёміў гледачоў са сваімі сябрамі і калегамі: з мастаком Леанідам Дзянікеевым, паэтам і журналістам Яўгенам Пясецкім, навукоўцамі Аляксандрам Лукашанцам і Таццянай Дасаевай, артыстам Алегам Вінярскім.

Гэтая вечарына — адзін з нямногіх крокаў да вяртання сцэнічнай паэзіі, паэзіі стадыёнаў. Было б няблага, каб падобныя паэтычныя сустрэчы адбываліся часцей.

# Не сцерці з памяці людской

Адна з трагічных старонак гісторыі беларускага народа — выпрабаванні, якія выпалі на долю вязняў Азарыцкага лагера смерці. У багністай мясцовасці, пад адкрытым небам, у нечалавечых умовах на працягу амаль месяца ўтрымлівалася 50 тысяч безабаронных старых, жанчын і дзяцей.

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

Восенню 1943 года пачалося вызваленне паўднёвых раёнаў Беларусі. Пакінуўшы ў студзені 44-га Калінкавічы і Мазыр, вораг адступіў за раку Віша, а мястэчка Азарычы на два месяцы стала прыфрантавым. На балотах фашысты стварылі тры абнесеныя калючым дротам лагеры: найбуйнейшы — непадалёк ад Азарыч, яшчэ два — каля вёсак Падасіннік і Дзерць. Тут упершыню падчас Другой сусветнай вайны акупанты выпрабавалі бактэрыялагічную зброю — бактэрыі сыпнога тыфу, які вельмі хутка распаўсюдзіўся сярод вязняў. Паўсюль ляжалі трупы, хаваць іх строга забаранялася. Памерла больш як некалькі дзясяткаў тысяч чалавек.

— Хлеб прывозілі толькі двойчы і проста кідалі праз агароджу, — успамінае старшыня грамадскага аб'яднання былых вязняў фашызму канцлагера «Азарычы» Фёдар Верас. — Вады не давалі, таму мы вымушаны былі піць балотную жыжку. Ужо праз некалькі дзён многія пераставалі рухацца.

Штогод 19 сакавіка каля помніка мірным жыхарам, якія загінулі ў лагеры смерці «Азарычы», збіраюцца былыя вязні, вучні мясцовых школ, прадстаўнікі грамадскасці, каб ушанаваць памяць бязвінных ахвяр фашызму. «Азарычы» — гэта напамін пра бяду, адчай і смерць. 19 сакавіка, 69 год таму, з азарыцкага лагера савецкія салдаты вызвалілі 33 480 чалавек, з іх 15 960 — дзеці да 13 гадоў. Спатрэбіліся вялікія намаганні, у першую чаргу ваенных медыкаў, каб выратаваць іх ад смерці. Але выжыць змаглі не ўсе...

Праўда, сёння былыя вязні не разумеюць, чаму ў розных гістарычных дакументах, а таксама ў матэрыялах Нюрнбергскага міжнароднага ваеннага трыбунала, іх лагер праходзіць пад назвай «канцлагер Азарычы», а ў 1995 годзе яго статус змяніўся на «лагер смерці "Азарычы"». Да гэтага ўсе тыпы лагераў, якія нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі на акупаванай тэрыторыі СССР, абазначаліся як канцэнтрацыйныя, паколькі ў іх утрымлівалася вялікая колькасць людзей.

— Першая задача, якая стаіць перад намі, — усё-такі дабіцца змянення статусу лагера, — зазначыў Фёдар Верас. — Другая — добраўпарадкаваць тэрыторыю трох канцлагераў, асабліва азарыцкага, каб сюды прыязджалі турысты, каб праўда не сцерлася з памяці людской. З дапамогаю спонсараў мы сабралі каля 100 мільёнаў рублёў.



*Помнік ахвярам лагера смерці «Азарычы».*

# Па навіны ў Маскву

Штогод на пачатку вясны ў Маскве праходзіць Нацыянальная кніжная выстаўка-кірмаш «Кнігі Расіі», у якой па традыцыі ўзялі ўдзел беларускія выдаўцы.

**Чэслава ПАЛУЯН**

Кніжная супольнасць Масквы ўсё часцей выказвае слушныя думкі наконт неабходнасці змены фармату вясновай выстаўкі. Яно і зразумела. Бо атрымліваецца так, што на веснавым міжнародным кірмашы і ўдзельнікаў больш, і сярод публікі выдавецкая прадукцыя больш запатрабаваная. А Нацыянальная выстаўка паступова набывае камерны фармат — і колькасць удзельнікаў з кожным годам толькі змяншаецца, і ажыятажу сярод аматараў чытання стэнды не выклікаюць. Разам з тым вясновая кніжная выстаўка-кірмаш зазвычай мае насычаную дзелавую праграму. Так было і сёлета. Удзельнікам многіх імпрэз стала намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Ала Корбут.

Так, Ала Генрыхаўна распавяла, што ў межах мерапрыемстваў выстаўкі адбылася сустрэча з беларускай дзіцячай пісьменніцай Наталляй Ігнаценкай, падчас якой прадстаўнік геральдыі дома Раманавых Станіслаў Дудзін уручыў ёй ордэн Святой Ганны — за ўмацаванне сувязей паміж Беларуссю і Расіяй. Маскоўскую публіку надзвычай зацікавіў новы творчы праект Выдавецкага дома «Звязда» і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь «Сугучча сэрцаў». Прэзентацыя першай кнігі серыі «З думай пра Радзіму», дзе прадстаўлены вершы і апавяданні пісьменнікаў Беларусі і Расіі, адбылася падчас форуму.

Не засталіся па-за ўвагай і бібліятэкі. Так, з выканаўчым дырэктарам Нацыянальнага бібліятэчнага рэсурсу Алегам Махно прайшлі перамовы па супрацоўніцтва і больш актыўнае прадстаўленне беларускай кнігі ў бібліятэчным сектары Расіі.

# Толькі талент і якасць

У Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь адбылася прэзентацыя першага нумара новага літаратурна-мастацкага часопіса «Метаморфозы» (заснавальнік — ПУП «Белэкомир», г. Гомель).

**Таццяна ЛЫЧАГІНА**

Выхад у свет новага літаратурнага часопіса — заўсёды падзея неардынарная, асабліва калі ініцыятыва зыходзіць ад саміх творчых асоб, аб'яднаных агульнай мэтай — стварыць выданне, старонкі якога стануць даступнымі для публікацыі твораў аўтараў незалежна ад краіны пражывання. І задачы творчы калектыў ставіць перад сабой і часопісам сур'ёзныя — умацаваць сапраўдныя духоўныя каштоўнасці, спрыяць самарэалізацыі аўтараў і іх далейшаму творчаму развіццю, знаёміць чытачоў з якаснымі творамі літаратуры і выяўленчага мастацтва.

У першы нумар часопіса ўвайшлі творы 52 аўтараў з Беларусі, Казахстана, Расіі, Украіны, ЗША. Апроч паэзіі, прозы, драматургіі і літаратурных перакладаў у «Метаморфозах» прадстаўлены рубрыкі «Прэзентацыя», «Публіцыстыка», «Арт-клуб» і «Наш вернісаж». Асаблівую цікавасць выклікае «Дэбют» — сапраўдная стартавая пляцоўка для тых, хто спрабуе свае сілы ў літаратуры.

Адбор матэрыялаў у нумар праводзіць літаратурна-мастацкі савет. Дарэчы, нехк само па сабе атрымалася, што ў яго ўвайшлі прадстаўнікі чатырох краін — Беларусі, Расіі, Украіны і Казахстана. Пра тое, як ствараўся часопіс, як вядзецца праца з аўтарамі, падчас прэзентацыі выдання распавялі сябры беларускай часткі літаратурна-мастацкага савета: галоўны рэдактар часопіса Наталля Сляднёва, пісьменнік Юрый Максіменка, пісьменнік і журналіст Уладзімір Шаронаў.

Па словах Наталлі Сляднёвай, праект выдання «Метаморфоз» — яго, дарэчы, падтрымаў Саюз пісьменнікаў Беларусі — быў ажыццёўлены менш як за год. Як адзначыла Наталля Яўгенаўна, «у нас ёсць цікавыя паэты, празаікі, драматургі, літаратурныя крытыкі, якія не заўсёды маюць магчымасць публікавацца ў часопісе падобнага фармату. Цяпер створана новая пляцоўка для таленавітых аўтараў».

Крытэрый адбору літаратурных твораў — толькі талент і якасць. Галоўны рэдактар распавяла таксама пра планы на будучыню, падкрэсліваючы, што часопіс прэзентуе творы не толькі таленавітых беларускіх аўтараў, але і літаратараў з іншых краін. Дзякуючы гэтаму і пра нашых творцаў даведаюцца далёка за межамі Беларусі. Да прыкладу, першы нумар часопіса ўжо змешчаны і карыстаецца папулярнасцю ў Берлінскай бібліятэцы сучаснай літаратуры. А аб'яўлены рэдакцыяй міжнародны літаратурны конкурс «Живое Слова — Живой Природе», прысвечаны Году экалагічнай культуры ў СНД, за кароткі тэрмін сабраў творы аўтараў з Расіі, Украіны, Казахстана, Таджыкістана, Узбекістана, Германіі і іншых краін.

Літабсягі

# Кропка паміж учора і заўтра

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася імпрэза «Ты — рай, паэзія, ты — рой адвечных дум, дзе мы згараем...» Сёлета з нагоды Сусветнага дня паэзіі тут гучалі маладыя галасы.



Фота Кастуся Дробава

Вольга Гронская.

Прагграму вечарыны адкрыла прэзентацыя кніг серыі «Маладая паэзія Беларусі». Пра яе стварэнне распавёў Рагнед Малахоўскі: «Некалькі год таму я «паскардзіўся» старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, што для маладых паэтаў не існуе пры Саюзе сваёй кніжнай серыі, адпаведнай той, якую маюць сталыя аўтары, выдаючы свае творы ва ўжо знакамітых зялёных с золатам вокладках». Мікалай Чаргінец ухваліў ініцыятыву — так з'явіліся кнігі маладых паэтаў Надзеі Філон, Дар'і Лёсавай, Рагнеда Малахоўскага, Марыны Помаз, Насты Кудасавай, Вольгі Гронскай, Адама Шостака, Алеся Бараноўскага. Плануюцца выданні Аксаны Мітрошчанкавай, Зміцера Арцюха. Гэта сумесны праект СПБ з выдавецтвам «Харвест».

Кніга вершаў Вольгі Гронскай «АдВольная міфалогія» выйшла зусім нядаўна, таму вечарына ў Доме Коласа стала нагодай для яе прэзентацыі аўтаркай. Паводле трапнай заўвагі таго ж Р. Малахоўскага, кніжка Гронскай — «спелая гронка паэзіі». Сапраўды: узровень гэтай — пераважна інтымнай — лірыкі годны выдання і ў больш «сталых» серыях. Асаблівасць паэтычнага слова Вольгі Гронскай — яго ціхая прыхаванасць, недаказанасць, прыярытэт працяжніка над коскай, шматкроп'я — перад кропкай. Нават дзіўна, як стваральніца такой вытанчанай, камернай паэзіі знаходзіць энергію кіраваць моладзевым літаратурна-творчым аб'яднаннем «БУКет» пры Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Яго ўдзельнікі прыйшлі павіншаваць выкладчыцу — яны чыталі творы вядомых беларускіх і рускіх паэтаў.

Парадаваў неардынарнай творчасцю Адам Шостак, майстра малюнкаў сучаснага жыцця, увасабляльнік парадоксаў урбаністычнай прасторы.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Арт-лінія



Б. Аракчэеў «Янка Купала. Вялікая Айчынная».

# Моц дынастыі

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашае на вернісаж «Усюды бачу моц жыцця», прысвечаны светлай памяці выбітнага мастака, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Барыса Аракчэева.

Выстаўка работ прадстаўнікоў дынастыі Аракчэевых, самога роданачальніка Барыса Уладзіміравіча і яго дачкі Аксаны, тэма якой — творчасць Янкі Купалы, планавалася даўно: для мастакоў розных пакаленняў вядомы беларускі пісьменнік заўсёды з'яўляўся крыніцай натхнення. А. Аракчэева працавала над партрэтам Песняра «Усюды бачу моц жыцця. Янка Купала», Б. Аракчэеў планаваў скончыць работу «Янка Купала. Вялікая Айчынная». Трэба адзначыць, майстар зноў і зноў вяртаўся да гэтага твора на працягу 10 год, усё ніяк не мог яго завяршыць. Так атрымалася, што дачка і бацька скончылі свае работы ў адзін дзень — 10 сакавіка. І менавіта ў гэты дзень Барыс Уладзіміравіч пайшоў з жыцця.

Вернісаж «Усюды бачу моц жыцця» пачынаецца яшчэ на ўваходзе ў выставачную залу: першае, што заўважаеш, — вялікі чорна-белы фотаздымак бацькі і дачкі ў майстэрні. Аксана Аракчэева заўсёды была побач з мастаком. Міжволі ўзгадваецца Іда Шагал, якая была добрым анёлам не толькі ў творчасці свайго бацькі, але і ў жыцці.

«Усюды бачу моц жыцця» не проста экспазіцыя. Адна яе частка ўяўляе сабой майстэрню Б. Аракчэева — тут яго эцюднік, фарбы, пэндзаль, крыху нядбайна раскіданыя эскізы на стале, на спінцы крэсла — халат, у якім працаваў майстар, чырвоныя гваздзікі на стале. Тут жа — і галоўны твор экспазіцыі «Янка Купала. Вялікая Айчынная» Барыса Аракчэева, які экспануецца на эцюдніку разам з двума эскізамі. На выстаўцы можна пабачыць пейзажы і нацюрморты, напісаныя ў розныя гады, партрэт майстра.

Другая частка выстаўкі — работы Аксаны Аракчэевай, якая ўжо не адзін год працуе ў станковай і кніжнай графіцы, жывапісе, анімацыі. Сярод аўтарскіх нацюрмортаў і пейзажаў — таксама партрэт Песняра «Усюды бачу моц жыцця. Янка Купала».

Аднак на выстаўцы шмат і фотаздымкаў, у іх — творчы шлях Б. Аракчэева і летапіс сям'і. Студэнцтва майстра, гады выкладчыцкай дзейнасці ў Мінскім мастацкім вучылішчы і Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, шматлікія пленэры — няма такой выявы, дзе Барыс Аракчэеў быў бы адзін: паўсюль сябры, калегі, вучні, дзеці.

Повязі

# З павагай да суседзяў

Міні-фестываль нацыянальных культур у межах этнатыдня ўпершыню прайшоў у 25-й мінскай гімназіі, дзе навучаюцца хлопчыкі і дзяўчынкі 15 нацыянальнасцей.

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

На выстаўцы ў розных формах прадстаўлена культура беларусаў, палякаў, татар, украінцаў, расіян, яўрэяў, армян. У будучым плануюць пазнаёміць з культурнай спадчынай літоўцаў, азербайджанцаў, немцаў і іншых народаў, прадстаўнікі якіх таксама вучацца ў гімназіі. Гэты міні-фестываль, можна сказаць, бярэ свой пачатак з дзён нацыянальных культур, што праводзяцца тут штомесяц.

— У гэты дзень абавязкова прадстаўляецца чыясьці нацыянальная кухня, — распавяла дырэктар гімназіі Таццяна Дымкова. — Дамаўляемся з работнікамі школьнай сталовай, і яны гатуюць самыя цікавыя стравы. А пачыналася ўсё сем гадоў таму з праекта па вывучэнні традыцый, культуры і гісторыі беларускага народа. Але сярод жыхароў Беларусі шмат прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей. Рэалізуючы праект, які мы распрацавалі сумесна з кіраўніком народнага гісторыка-краязнаўчага музея «Невычэрпная крыніца гісторыі» Алінай Пахвалёнай і былой настаўніцай працоўнага навучання Вольгай Паўлавец, дзеці падрыхтавалі шэраг даследчых прац.

Прынамсі, гімназісты выступілі на гарадской навукова-практычнай канферэнцыі з працай, прысвечанай жыццю беларускіх татар у г. п. Смілавічы Чэрвеньскага раёна. Сабралі шмат матэрыялаў пра знакамітых людзей, якія таксама прадстаўляюць розныя нацыянальнасці.

— Мы даўно сябруем з Маем Данцыгам, сынам настаўніка 25-й даваеннай школы, унукам Герца Данцыга, які меў уласную друкарню, дзе быў надрукаваны першы нумар газеты «Звязда», — дадала Т. Дымкова. — З дапамогай Мая Вольфавіча вывучалі яўрэйскую культуру. Калі назбіралася шмат інфармацыі пра асаблівасці розных нацыянальнасцей, вырашылі правесці адно вялікае свята не толькі для сябе, але і для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, былых настаўнікаў і выпускнікоў установы, з якімі падтрымліваем цесныя сувязі.



Армянскую культуру прадстаўляе вучаніца 11 класа Софа Габрыелян.

Старшыня грамадскага аб'яднання «Клуб «Ветэран МАЗ», былы вязень Аляксандра Наркевіч, уражаная тым, што ўбачыла і пачула падчас прэзентацыі, зазначыла: «Гэтыя фестывалі сапраўды аб'ядноўваюць усе нацыянальнасці. Сёння вельмі важна, каб мы сябравалі і разумелі адзін аднаго».

Абрысы

Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы адкрываецца пасля рэканструкцыі. І ўжо ў наступным месяцы пройдуць першыя пастаноўкі на роднай сцэне — на 4 і 5 красавіка запланавана «Паўлінка», якая традыцыйна распачынае кожны тэатральны сезон. Праўда, п'еса, як і сам тэатр, таксама абнавілася. Аднак спектаклі будуць ісці і на іншых пляцоўках сталіцы: на малой сцэне Канцэртнай залы «Мінск», у Палацы культуры прафсаюзаў і ў Цэнтральным доме афіцэраў. Нагадаем, што работы па рэканструкцыі пачаліся ў 2010 годзе, на іх было задзейнічана каля тысячы будаўнікоў, перад якімі стаяла задача вярнуць будынку гістарычны выгляд і аснасціць яго самым сучасным абсталяваннем. Узведзены ў 1890 годзе, будынак тэатра ўпершыню «перажыў» такую маштабную рэканструкцыю.

У межах тыдня беларускай мовы і літаратуры распачалося супрацоўніцтва Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і сталічнай гімназіі № 37. Першай у серыі імпрэз стала інтэрактыўная праграма «Вячоркі» паводле беларускіх народных традыцый і твораў першага народнага паэта Беларусі. Удзельнікі мерапрыемства — супрацоўнікі музея, педагагічны калектыў і вучні 5 — 8 класаў гімназіі — спявалі, чыталі вершы Янкі Купалы, адгадвалі яго загадкі. Асаблівае задавальненне дзеці і дарослыя атрымалі ад майстар-класаў па вырабе лялек-абярэгаў і паштовак з паперы, пацерак, гузікаў і рознакаляровых стужак, дзякуючы чаму ў кожнага наведвальніка «Вячорак» з'явіўся сувенір на добры ўспамін пра незвычайную сустрэчу. З захапленнем удзельнікі мерапрыемства развучвалі старадаўнія беларускія танцы і гульні.

Праграму для дзяцей арганізатары імпрэзы ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь назвалі «Шпакі прыляцелі». Яны заклікаюць дарослых і дзяцей пераадолець гурбы снегу і завітаць на творчыя сустрэчы. Да ўвагі наведвальнікаў — музычная імпрэза «Сланечнікавыя людзі», прэзентацыя кнігі Ганны Сілівончык «Вялікія сакрэты», прагляд жывапісных палотнаў аўтара кнігі. Г. Сілівончык акрамя таго, што піша карціны, яшчэ займаецца літаратурнай творчасцю: піша вершы, апавяданні, казкі. Кніга «Вялікія сакрэты» пабачыла свет у серыі «Дзіцячая карцінная галерэя». Урачыстае адкрыццё праграмы «Шпакі прыляцелі» — 31 сакавіка а 14-й гадзіне ў арт-кафэ Нацыянальнага мастацкага музея.

Свята гумару «Рэха Аўцюкоў» адбудзецца 1 красавіка а 17-й гадзіне ў Нацыянальным цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі. Удзел возьмуць вядомыя пісьменнікі-гумарысты, артысты, народнамастацкія калектывы. Імпрэза арганізуецца паміж этапамі Рэспубліканскага свята гумару, якое праходзіць раз на два гады ў Аўцюках Калінкавіцкага раёна. А 4 красавіка свята гумару прадоўжыцца ў сталічнай бібліятэцы № 5 з удзелам вядомых беларускіх гумарыстаў ды парадыстаў — членаў Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.

# Літаратурная індукцыя

Кніга Віктара Шніпа «Пугачоўскі цырульнік» — гэта папяровая рэінкарнацыя нататак, якія пісьменнік змяшчаў у сваім блогу з 2009 па 2012 год. Калі ўлічыць, што блог — той жа дзённік, мы маем справу з мемуарамі, да якіх рана ці позна звяртаецца большасць творцаў. Аднак у мемуараў ёсць адна загана: як нешта вельмі асабістае яны могуць быць не заўжды цікавыя чытачу. Чытачу масаваму, а не прыхільніку творчасці пэўнага аўтара.

**Анастасія ГРЫШЧУК**




Шчыра кажу: атрымаўшы ад Віктара Анатольевіча кнігу, я асцерагалася сустрэць тое, чым часта грашаць мемуарысты: нясуцешную настальгію па велічы былых часоў СССР, маралізатарства і звышпаэтычныя назіранні. Па вялікім рахунку, усё гэта не так і страшна. Хіба што сумна. Аўтар таксама пераймаўся: выдаць кніжку выдаў, а ці яна каму патрэбная?

Магу суцешыць і аўтара, і будучых чытачоў: кніга патрэбная.

Чаму?

Для некага Шніп — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». Для некага — бацька. Муж. Паэт, у рэшце рэшт. Пад вокладкай «Пугачоўскага цырульніка» сабраныя ўсе сацыяльныя ролі аўтара. На прыкладзе аднаго чалавека мы можам спазнаць вельмі многае, тым больш калі гэты самы чалавек умее вылучыць існае і выкласці гэта добрай мовай. Ды з гумарам, часцей — сумным і заўжды — жывым, народным, як кажуць. Што не дзіўна, бо Віктар Шніп — вясковы, пра што сам перыядычна згадвае:

«20.02.2011. Стаміўся ад усяго. І ўва мне крычыць вясковы хлапчук: "Не хачу болей быць дарослым!!!"»

Вось яна — найбольшая каштоўнасць новай кнігі Шніпа: мы бачым чалавека, які не хавае сваіх слабасцей, страхаў, недахопаў, жаданняў. Ён «непрычасаны». Зразумела, мы не можам вызначыць, ці ўсё нам сказаў аўтар — ды і хіба павінен быў? Прынамсі, таго, што сказана, дастаткова.

Цікава паназіраць за «быццём» (інакш не скажаш) галоўнага рэдактара саліднага дзяржаўнага выдавецтва.

«6.10.2011. Рэдактар сярод мёртвых рукапісаў, як Харон».

І ў той жа дзень:

*«...як на чорнай галеры,*
*Да вясла прыкаваны,*
*Ты і сёння на працы.*
*І глядзіш на шпалеры,*
*Як на ціш акіяна,*
*Як праз краты, праз пальцы».*

Знаёма? Больш чым, скажуць некаторыя, і я з імі пагаджуся.

Аўтар падымае адну з галоўных праблем беларускага кнігавыдання — безгустоўнае афармленне вокладак. В. Шніп не кідаецца ў развагі і не займаецца традыцыйным беларускім галашэннем. Проста і сціпла заўважае: «Глянуў на вокладку адной кнігі, і ў галаве тут жа прагучала: "Яна была цудоўнай, як палена..."» Што з гэтай бядой рабіць, Віктар Анатольевіч не кажа і мае поўнае на гэта права.

Ёсць адзін значны момант, які варта падкрэсліць, — інфармацыйнасць. Факты, даты, імёны. Асабліва датычна пісьменнікаў. Аўтар згадвае Алеся Пісьмянкова, Анатоля Сыса, Васіля Быкава, Андрэя Федарэнку, Валянціну Коўтун, зразумела ж — Людмілу Рублеўскую і многіх іншых.

Як паэт Віктар Шніп, мусіць, проста не мог не разважаць пра жыццё і смерць, пра лёс і праўдзівызначанасць, пра сэнс творчасці і іншыя падобныя катэгорыі. Часам пісьменнік ператвараецца ў летапісца: распавядае пра найбольш значныя на нашай планеце падзеі (землятрус у Японіі), падрабязна апісвае помнікі архітэктуры ці нечыя біяграфіі. Аднак гэтыя звесткі падаюцца ў кнізе лішнімі, бо тую ж інфармацыю цяпер лёгка можна знайсці ў сеціве. Ёсць рызыка, што чытач проста не стане губляць час і прагарне старонку.

Вялікую частку складаюць успаміны пра вучобу ў знакамітым маскоўскім Літінстытуце імя М. Горкага, аднак пра сам «вучэбны працэс» вы звестак не знойдзеце. Самае цікавае ў жыцці студэнта адбываецца ў сценах інтэрната, пра што Шніп і піша: гулянкі, танцы, заляцанні, жарты, асабістыя трагедыі, распуста, творчасць. Героі атрымаліся такімі жывымі, што ўзнікае ўстойлівае адчуванне, быццам бы зараз у дзверы пастукае нікарагуанскі пісьменнік Карлас і пазычыць тры рублі да наступнай пятніцы.

Але ўсё гэта — пачынаючы з юнацкай летуценнасці і заканчваючы сталым рэдактарствам — адступае на другі план. Бо галоўнае ў кнізе — сям'я. Родны дом у вёсцы Пугачы. Бацькі. Жыццё Шніпа ў 2009 — 2012 гадах засяроджваецца на іх адных. Вядома, хапае ўсяго, але цэнтр сусвету — мама і тата. І чым бліжэй да канца кнігі, тым больш гэтае адчуванне ўзмацняецца.

Назву сваю кніга атрымала ад аднаго з абразкоў, дзе аўтар расказвае, як ён стрыжэ і голіць бацьку. Не заўжды ўдала, часам раніць яго. І тут бачыцца паралель з адвечным матывам «бацькі і дзеці», калі апошнія раняць, хоць і ненаўмысна, сваіх бацькоў, але тыя трываюць, бо — як інакш? Так трывае стары бацька свайго сына-паэта ў якасці цырульніка. Што цікава: пра сваіх дзяцей Шніп гаворыць мала...

Апошняя нататка надае лагічную завершанасць кнізе, у якой адсутнічаюць лінейны сюжэт і час:

«...Пахавалі бацьку на Ракаўскіх могілках побач з мамай. І мне цяпер не трэба быць цырульнікам...»

Успаміны Віктара Шніпа — гэта ўспаміны хлопчыка і мужчыны, бацькі і сына, творцы і рэдактара. Дзякуючы вялікаму жыццёваму досведу аўтара яго ўспаміны «знаёмыя» і зразумелыя вялікай чытацкай аўдыторыі. Суб'ектыўнае становіцца аб'ектыўным, прыватнае — агульным.

Такая вось літаратурная індукцыя.

# Вакол — цудоўныя людзі

Кніжная серыя «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі» папоўнілася яшчэ адным выданнем — кнігай Дзмітрыя Пятровіча «Белая Жанчына» («Чатыры чвэрці», 2012).

**Міхась СЛІВА**

Як адзначаецца ў анатацыі, у зборнік увайшлі аповесці, апавяданні, эсэ, якія раней былі апублікаваныя ў часопісах і газетах і атрымалі станоўчую ацэнку чытачоў. Тут і дзве аповесці, напісаныя на дэтэктыўна-прыгодніцкім матэрыяле («Белая Жанчына» і «Джэк»), і творы малога жанру — прысвечаныя памяці ахвяр трагедыі ў мінскім метро 11 красавіка 2011 года (апавяданне «Цана крыві»), радзіме пісьменніка — Заслаўю (эсэ «Горад майго сэрца»), каханню, вернасці (апавяданні «Анёлы», «Ружа», «Мара» і іншыя).

У прадмове рэдактар кнігі, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа Андрэй Федарэнка, прыводзіць словы з рэцэнзіі крытыка Жанны Капусты: «Тых, хто сочыць за публікацыямі Дзмітрыя Пятровіча, усцешыць відавочны творчы рост гэтага аўтара. Яго новая аповесць «Белая Жанчына» стане прыемнай і захапляльнай чытанкай... Нягледзячы на прадказальнасць сюжэта, аповесць чытаецца перш за ўсё дзякуючы напружанасці, дынамічнасці апісанага дзеяння».

Ад сябе дадамо, што амаль усе героі твораў Дзмітрыя Пятровіча — людзі светлыя, з чыстымі душамі, шчырыя, чулыя, спагадлівыя. Прычым аўтар не прыхарошвае сваіх герояў: яны жывуць у акружэнні розных людзей — добрых і злых — і з'яўляюцца ўдзельнікамі або сведкамі разнастайных падзей, у тым ліку і драматычных. Тым не менш яны нібы выпраменьваюць дабрыню і сардэчнасць, і ўчынкі іх высакародныя. Чытаеш кнігу і адчуваеш, як у душы нараджаецца радасць. І ў гэтым, лічу, заслуга пісьменніка. Бо сам ён такі ж — добразычлівы, сардэчны, светлы чалавек, які аддае іншым часцінку свайго вялікага сэрца.

# Вярнуў фарбы маленства

На вечарыне з нагоды 70-годдзя дзіцячага пісьменніка Міколы Чарняўскага Мікола Мятліцкі заўважыў, што юбіляр вяртае чытачам фарбы маленства. Сапраўды, у сваіх кнігах Чарняўскі адлюстроўвае шматколернасць дзіцячай фантазіі. І ў новай кніжцы «Ці растуць грыбы ў Грыбна» знойдзеш трыпціх пад назвай «Вясновыя акварэлі».

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

Слухаючы Мятліцкага, іншых выступоўцаў, згадаў кастрычнік 1971 года. Творчы «дэсант» часопіса «Бярозка» аказаўся ў Жабінкаўскім раёне Брэсцкай вобласці. Супрацоўнікаў вядомага дзіцячага выдання цікавіла, ці любяць вучні «Бярозку», што ім асабліва падабаецца чытаць.

Які часопіс чакае хлопчыкаў і дзяўчынак у наступным годзе, расказала Алена Мімрык. Пра афармленне «Бярозкі» гаварыў Арнольд Пятровіч, а Мікола Чарняўскі чытаў новыя вершы. Былі яны вясёлыя, напісаныя з добрым дзіцячым гумарам і хораша прымаліся малымі. Напрыклад, у вершы «У першым класе» настаўнік пытаецца ў дзетак, чаму заяц узімку белы. На гэта малы гарэза адказаў, што зайчыка абсыпала сняжком у лесе.

Прыблізна ў той час слынны дзіцячы пісьменнік Васіль Вітка пры сустрэчы сказаў Чарняўскаму:

— Рады за цябе, Мікалай, ты пачынаеш лепш адчуваць дзіцячую паэзію, душу дзіцяці, пачынаеш думаць. Давай і надалей старайся!

З той пары прайшло чатыры дзясяткі гадоў. Калі падлічыць набыткі, дык яны болей чым важкія. Выдадзена сорак кніжак. Абсалютная большасць для свайго любімага чытача — школьнікаў малодшага і сярэдняга ўзросту. Мікола Чарняўскі — выдатнік народнай асветы БССР, выдатнік друку Беларусі, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра, прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, прэміі імя Васіля Віткі за публікацыі ў часопісе «Вясёлка», ён быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

«Ураджайным» быў і 2012 год: у М.Чарняўскага выйшла тры кніжкі. Пра адну з іх — «Ці растуць грыбы ў Грыбна» — і пойдзе гаворка ў гэтым артыкуле. У вершы, які даў назву зборніку, аўтар застаўся верным сваёй тэме, свайму герою. Мікола Мікалаевіч запрашае юных сяброў схадзіць у грыбы ля вёсак Грыбаўцы, Грыбіна да Грыбаны, дзе баравікі «раскашуюць у глушы, / як шатры, капелюшы».

Ён гатовы быў паклікаць дзяцей і ў Грыбна, ды там, каб «збіраць, трэба з кошыкам... ныраць». Чытач заінтрыгаваны, што гэта за дзіўны такі збор грыбоў, а паэт тлумачыць:

*Ёсць сакрэт у Грыбна:*
*Там не грыбна —*
*Рыбна!*
*Бо вядома ўсім даўно:*
*Грыбна —*
*Возера яно!*

У другім «грыбным» вершы «Нахлебнічак» Дзіма знайшоў дзіўны баравічок, у якога на шапцы сядзеў меншы грыбок, і панёс паказваць дзеду.

*Дзед зірнуў праз акуляры:*
*— Не знаходзіў я такіх.*
*Бач ты,*
*Бацьку сеў на карак, —*
*Ёсць нахлебнічкі і ў іх.*

У вершы «Займеннікі-найменнікі» Кагосьці Чагосьці паклікала ў госці, каб пачаставаць чымсьці, ды пры гэтым забылася пра суседа Хтосьці, ці, можа, той будзе лішні Камусьці? Для таго, каб разабрацца з няпэўнымі займеннікамі, Мікола Чарняўскі заклікае школьнікаў сябраваць з матуляй Граматыкай.

Гэтак — і сур'ёзна, і з вясёлай усмешкай — пісьменнік вядзе гаворку з чытачом пра хараство роднага краю, пра школьныя справы і розныя дзіцячыя прыгоды. Услед за вершамі ідуць прымаўлянкі-забаўлянкі, загадкі і шарады. Завяршаюць кніжку вершаваныя казкі.

Мікола Чарняўскі вучыць малых думаць, разважаць, адгадваць. Мы, канечне, не можам згадаць тут усе творы, багатыя на кемнасць і весялосць, але адну загадку ўсё ж прапануем:

*Ходзіць, рагаты,*
*Не запросіш дахаты,*
*Не просіць хлеба,*
*А выпас — неба.*
*Хто гэты рагач?*
*А ты ноччу пабач.*

Калі ж юны чытач скарыстае параду і зірне ноччу на неба, дык абавязкова адшукае сярод зорак і рагаты месяц. А паспрабуйце хуценька прачытаць ад пачатку да канца «Футра Шыншыла пашыла...», «За хвалю хваля хвалявалася...» і іншыя прымаўлянкі-забаўлянкі. Што, смешна атрымліваецца?..

Аўтар імкнецца крочыць ў нагу з часам. Вы пагодзіцеся з такім меркаваннем, калі прачытаеце казку «Ласіны хутар і дзіва-камп'ютар». Лось за рогі, якія прыйшоў час скідваць, выменяў камп'ютар для сваіх дзетак. Хутка пра дзіва-тэхніку ведаў увесь лес, і хто толькі не пабываў на Ласіным хутары: і мядзведзь з сынам, і барсукі, і зайцы, нават кошка з кацянятамі. Лось забыўся на сон.

Але найбольш нахабна паводзіла сябе зграя ваўчанят, якія, дабраўшыся да камп'ютара, як і некаторыя хлапчукі ды дзяўчынкі, гатовы былі нават не гадзінамі, а суткамі праседжваць за маніторам. Аж пакуль гаспадар не прагнаў гульцоў, а камп'ютар вырашыў занесці ў лясную школку, дзе ад яго будзе больш карысці.

Не раз даводзілася чуць ад Міколы Чарняўскага, што добрая кніга — гэта свята для дзяцей, і ён сам старанна рыхтуе такія святы для юных чытачоў.

# Да чытача — у тысячны раз



Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Лютаўскі нумар «Полымя» стаў для часопіса юбілейным. Каб дасягнуць вышыні ў тысячу нумароў, выданню спатрэбілася дзевяноста гадоў і два месяцы. Воляю лёсу і рэдакцыі ў юбілейным выпуску сабраныя творы сталых аўтараў часопіса, якія неаднаразова выступалі на яго старонках.

Проза прадстаўлена двума імёнамі. Часопіс адкрывае апавяданне-быль Галіны Васілеўскай «Белыя парасончыкі з таполі». Назва сімвалічная: у чэрвені 1944 года, перад самым вызваленнем Мінска Мая, 10-гадовая зняволеная фашысцкага канцлагера, ловіць таполевы пух для малодшай сястры і трапляе за агароджу лагера. Дзякуючы гэтаму застаецца жывой, а яе сям'я апынаецца ў Трасцянцы... Твор атрымаўся надзвычай шчыры, пазбаўлены маралізатарства. Аўтар без пафасу піша пра сур'ёзныя, сапраўды трагічныя падзеі і прымушае рэальна суперажываць сваім героям.

Працягваецца публікацыя рамана Уладзіміра Гніламёдава «Ліхалецце» (пачатак друкаваўся ў 6-м — 9-м нумарах за мінулы год, а таксама ў папярэднім, студзеньскім выпуску). Дзеянне прапанаванага ўрыўка пачынаецца зімой 1942 — 1943 гадоў і прысвечана далейшым падзеям вайны. Аўтар застаецца верным традыцыям айчыннай ваеннай прозы 1960 — 1980-х гадоў і імкнецца арыентавацца на лепшыя здабыткі аўтараў таго перыяду. Таму аматары літаратуры ўбачаць пераемнасць паміж тыповымі вобразамі, якія распрацоўваліся іншымі аўтарамі: фашыстаў-акупантаў, мужных партызан (сярод якіх ёсць тыя, хто з разуменнем ставіцца да жыцця вясковых жыхароў, і тыя, хто забірае ў сялян апошняе) і бязлітасных эмісараў з Масквы.

Аматараў драматургіі чакае новая меладрама Георгія Марчука «Пісьмы салдату». Галоўная думка аўтара схавана, на мой погляд, у эпіграфе, які, паводле версіі Г. Марчука, занатаваны ў запісках невядомага сяржанта: «Шмат хто праўдамі і няпраўдамі імкнецца пазбегнуць службы ў арміі, але пазней усе дзякуюць лёсу за гэтую школу жыцця». П'еса атрымалася надзвычай патрыятычнай і адначасова ў нечым ідэалістычнай. Зрэшты, тут ёсць свая логіка: творца пачаў працу над ёй 9 мая, а закончыў 3 ліпеня мінулага года.

Паэтычныя старонкі «Полымя» аддадзеныя двум прызнаным майстрам. Творчасць Міколы Маляўкі прысвечана традыцыйным тэмам: апяванню прыгажосці роднага краю («Доля выпрабоўвае», «Гронка бэзу»), жаночай прыгажосці («У бродзе, за мостам старым»). Найбольш глыбокай падаецца філасофская лірыка: «*Найлепей, аднак, // За думкай следам // Падняцца над векам, // Падняцца над светам — // І з гэтай магічнай арбіты // Разглядваць зямлі краявіды, // Жыццё ў прасторы і часе — // З мінулым і будучым у запасе*».

Віктар Шніп прапануе як вершы, так і творы ў сваім любімым жанры балады (прысвечаныя Паўлу Пруднікаву, Сяргею Грахоўскаму і Уладзіміру Конану). Найбольш уражвае «Балада Паўла Пруднікава», паэта, вязня ГУЛАГа: «*Да цябе да акна прылятае сініца, // І глядзіць у акно, і цябе не баіцца, // Бо яна з тых часоў, з ленінградскіх «Крыжоў», // Дзе твой шлях крыжавы пачынаўся і кроў // Пралілася твая на снягі, і драты, // І на той час пякельны, і час залаты...*»

Літаратура іншых народаў прадстаўлена вершамі сучаснага азербайджанскага паэта Чынгіза Аліаглы (у перакладзе Міколы Мятліцкага). З ягонай творчасцю знаёміць артыкул Алеся Карлюкевіча «Учора і вечна».

У літаратуразнаўчым раздзеле чытачы сустрэнуць публікацыі Крысціны Папко «"Доўг памяці" Уладзіміра Калесніка ў кантэксце беларускай літаратуры факта» і Аляксея Рагулі «"Плынь" (карціна нацыянальнага быцця ў раманах Леаніда Левановіча)», а таксама заканчэнне працы Алеся Марціновіча «Брама, адчыненая ў вечнасць», прысвечанай жыццю і творчасці Максіма Гарэцкага (пачатак у папярэднім нумары).

Завяршаюць юбілейны нумар інтэрв'ю Зіновія Прыгодзіча з дырыжорам Міхаілам Фінберагам; рэцэнзія Анатоля Маркушава «Як Статкевіч-Чабаганаў дапоўніў Аляксея Талстога» на кнігу Анатоля Статкевіча-Чабаганава «Я — сын Ваш. Казановічы герба «Гржымала». Летапіс беларускай шляхты»; а таксама першы артыкул Сяргея Дзядзіцыка «Зямля даўняя, зямля слаўная» з цыкла, прысвечанага Ляхаўшчыне.

# Месца для самоты



Алена КАРП

Чалавек самотны і збольшага не згодны гэта прымаць. Баіцца быць адзін, а потым баіцца, што памыліўся, што не з тымі. Так і ходзіць па зачараваным коле, шукаючы, дзе б прыпыніцца, у чые б рукі аддаць сваю адзіноту. І на гэтым шляху не раз блытаецца, спатыкаецца, упадае ў адчай і кляне ўсё на свеце. Балюча.

Літаратура — гэта таксама боль. І яшчэ самота. Вядома, гэта пасуе не кожнаму. Ёсць і тыя, для каго альбомныя вершыкі — літаратура, але дазволім сабе не браць іх у разлік. Аўтар, для якога тэкст становіцца шляхам, болем, перааадольваннем, у словах якога бачна жывую душу, заўсёды выклікае павагу. Часопіс «Нёман» з лёгкай рукі Ігара Запрудскага прапануе сваім чытачам такога аўтара. Наўрад ці камусьці з літаратурнай публікі добра вядомае імя Галіны Мажэй. Давядзецца задаволіцца сціплымі звесткамі пра аўтараў у канцы нумара. Зрэшты, гэтага дастаткова (хіба што хацелася б адсылак на ранейшыя публікацыі, калі яны ёсць), бо першаснае, як вядома, твор.

Апавяданне «Ляснымі сцежкамі» выбудоўваецца кінематаграфічна. Адна сцэна, зацямненне — і зноў яркае святло пражэктара, у якое трапляе і тое, што звычайна стараюцца прыхоўваць. Не самыя прывабныя дэталі высвечваюцца рэзка, выразна і бязлітасна: «В тёмном углу, куда почти не проникал свет маленькой, засиженной мухами лампочки, на ворохе соломы, обессиленная, прерывисто дыша, лежала волчица. Опустевший после ночных родов живот был похож на грязную, разорванную в клочья тряпку и лежал между лап, словно нечто, не принадлежавшее ей». Што імпануе, гэтая кінематаграфічнасць — не мэта, а сродак. У святло пражэктара трапляюцца і прыцемкі чалавечай душы, і мінулае герояў.

Імкненне да максімальнай дакладнасці ў дэталях, да як мага шырэйшага погляду Галіна Мажэй спалучае з лаканічнасцю выказвання. Гэта проза без упрыгожванняў. Бадай, толькі самота, яе асэнсаванне важнае для аўтаркі настолькі, што хочацца падкрэсліць, аздобіць тэму вобразнасцю, у якой бачыцца нейкая наўмыснасць і празмернасць: «Таяла и капля за каплей стекала с души окаменевшая смола отчаяния и одиночества»; «И она выпрыгнула из окна, оставив за собой полыхающую горечь своего детства и падающие стены одиночества лесника».

Падобныя выдаткі, аднак, ураўнаважваюцца тым, як стройна, лагічна асобныя кампаненты апавядання збіраюцца ў адзіны, цэласны і гарманічны ансамбль. Параненая ваўчыца, ускраіна вёскі, адасобленая ад свету хатка лесніка — усё пасуе да асацыятыўнага шэрагу «самота, адзінота, закінутасць». Тут знарок няма соцыуму, няма знешніх рэалій. Нібы ў глыбокую ваду, аўтарка ўваходзіць у тэму. І калі мы хочам ісці следам за ёй, то лепш не гуляць у «веру — не веру», не задумвацца, наколькі праўдападобна тое, што васьмігадовая дзяўчынка наадрэз адмаўляецца ад апекі дарослых і пераважна сваімі сіламі вядзе гаспадарку. Гэтаксама пажадана не надта перайматца тым, як састыкаваць суседнія часткі аповеду: «Время шло, и постепенно деревня стала забывать о пожаре и о том, что где-то на краю деревни в баньке живёт сирота» і «...как ни помогали люди, и в огороде было много дел, и козочку, подаренную соседкой, пасти и доить надо было».

Праўда, відаць, у тым, што людзі не злыя і не добрыя. Яны могуць паспачуваць Верачцы-Песеньцы і яны ж пазайздросціць і папляткараць. Яны прымаюць лесніка, прынамсі, ніяк яму не замінаюць, але абсмяюць, калі ён наблізіцца да іх са сваёй бядой. А магчыма, уся справа ў тым, што людзі самотныя — «каждый в своих заботах», кожны сам па сабе. І таму ляснік ужо не наважваецца несці сваю адзіноту людзям, дзелячы яе з ваўчыцай, знаходзячы маўклівае паразуменне: «За столом сидел человек и пил свою воду. Временами он громко лаял, размахивая неуклюжими лапами, потом засыпал, снова просыпался и долго выл. Волчица щетинилась и скалила клыки, пока не поняла: этот человек — раненый волк, ему снится его последняя охота». «Кому повем печаль мою?..» Такое ўжо было ў Чэхава («Туга»), і гэтае ціхае, можа, нават несвядомае, перагукванне з класікай залагоджвае.

Happy end — «вот и встретились два одиночества» — не такі адназначны, як можа падацца. Хутчэй мы маем адкрыты фінал, бо ўсё ж цяжка паверыць, што мінулае зусім адпусціць герояў і не пацягнецца за імі следам, атручваючы ўжо супольную будучыню. Зрэшты, ёсць яшчэ адзін шлях — абраць свабоду, прыняць самоту як дадзенасць натуральную, а не трагічную. І гэта таксама ў падтэксце. Кругамі па вадзе. Глыбокай.

# Няўтульная аповесць



Алеся ЛАПІЦКАЯ

Новая аповесць Анатоля Казлова «Расхрыстанасць, альбо Далонь на плячы», надрукаваная ў часопісе «Маладосць» — твор, напісаны рукой сталага майстра і, адпаведна, найбольш прыдатны для крытычнага разгляду.

Гэта апісальная аповесць, якой крыху бракуе акцыянальнасці: замест таго, каб распавядаць, чым харчецца галоўны герой, хіба не цікавей было б выправіць яго на пахаванне былой жонкі, а доўгія развагі пра адзіноту скараціць да трапных рэплік у дыялогу з калегай? Але банальна-правакацыйнае пытанне «Што, ноч не ўдалася?» Вірун сустракае маўклівай абыякавасцю — да рэальнага жыцця ён ставіцца безуважна і стомлена, часам шматслоўна пра нешта шкадуе ці абураецца, але дакладна ўхіляецца ад мэтанакіраванага дзеяння.

Прадказальна для прозы гэтага аўтара, падзеі, што адбываюцца з галоўным героем, маюць містычны характар, але нічога нечаканага не дадаюць да агульнага ўяўлення пра Віруна. Калі б А. Казлоў быў мастаком, то здолеў бы намаляваць сваю аповесць на адным палатне: за кухонным сталом сядзіць саракагадовы мужчына і задуменна глядзіць убок, побач у фатэлі — нерухомая Моніка-Моня, на заднім плане — калекцыя цацачных козлікаў, шэры ўрбаністычны краявід альбо адзін з трох загадкавых тэкстаў, якія прачытаў Вірун у закінутым бараку. Дзеянне тут не патрэбна, бо герой статычны, яго настрой і светаўспрыманне амаль не змяняюцца — зрэшты, пісьменнік свядома збіраецца «ствараць карціну. Ці, лепш сказаць, пісаць вобраз». Што ў яго выдатна атрымліваецца — у выніку чытачу нават не трэба штосьці дадумваць ці падрахоўваць.

Вірун зноў і зноў разважае пра бессэнсоўнасць жыцця і сваю расчараванасць, твор сканчаецца прыкладна тым, з чаго пачынаўся, і пакідае цяжкае адчуванне безвыходнасці. Тэма аповесці нібы дазваляе пакінуць чытача з пачуццём самоты і безнадзейнасці — але ці варта імкнуцца да гэтага эфекту, зважаючы на тое, што нават пра сто гадоў адзіноты можна напісаць цікава і ярка...

Разам з тым, каб дадаць твору рэзкасці і напружанасці, пісьменнік уводзіць эпізод пакарання быком, шмат распавядае пра нялюбую працу, якая выклікае цікавыя аналогіі. Павінна заінтрыгаваць і загадкавая — маўклівая, нерухомая і ледзь не святая — Моніка-Моня, якую Вірун пераносіць з фатэля на фатэль, з якой вядзе бясконцыя размовы. Хто гэта — канарэйка ў клетцы, сіямская котка? Не, такі жанчына — паралізаваная старая ці, можа, яшчэ жахлівей?.. Удалая знаходка з Монікай-Моняй магла б стаць цэнтрам выдатнай навелы...

Развагі Віруна, эпізод з мінулага, здавалася б, аб'яднаныя памкненнем узняць гендарную праблематыку, выказацца пра ролю і месца жанчыны ў мужчынскім жыцці. Магчыма, бязладдзе і расхрыстанасць у душы галоўнага героя тлумачацца парадаксальна супярэчлівым стаўленнем да жанчын: ён нібы спадзяецца на шчырае каханне, але канстатуе, што «на кожную ўпадабаную дачку Евы мы глядзім у першую чаргу, як на патэнцыйную самку...» Аднак асабістыя і сацыяльныя праблемы саступаюць перад узроставай дэпрэсіяй і агульнай расчараванасцю Віруна — гэта цалкам дапушчальна для светаўспрымання героя, але не для аповесці, у якой закранаецца шмат праблемных аспектаў.

Тым не менш побач з банальнымі фразамі кшталту «пажывём — пабачым» і гастранамічнымі пералікамі сустракаюцца выдатныя, прыгожа напісаныя пасажы.

Зрэшты, аповесць А. Казлова — не адзіная цікавая публікацыя ў «Маладосці». Для тых, хто канчаткова стаміўся ад рэчаіснасці і даўно не зводзіць з ёю рахункі, — калі ласка, міфалагічнае апавяданне «Легенда пра шыпшыну» Ганны Навасельцавай — славянскае фэнтэзі з Перуном і Вялесам, з меладычнымі рэфрэнамі, дзякуючы якім словы раптам набываюць адвечную важкасць і глыбіню. Тыя ж, хто любіць канкрэтныя разважанні на адвечныя тэмы, бадай, спыняцца на даволі смелым дыялогу Раісы Баравіковай і Святланы Дзянісавай «Каханне. Анатомія», пракаменціраваным псіхолагам Нэлі Ксяневіч. Асобна псіхалогія, асобна чыстая містыка, але і ад расхрыстанасці часам нікуды не падзецца...





Павел САКОВІЧ

# Пародыі

## Рыфматворца

Табе шчэ трапятаць
У пацалунку страсным —
Мне ж болей рыфмаваць
Мінулае з сучасным.

**Мікола ШАБОВІЧ**

*Я рыфмы ўпадабаў
Яшчэ ў маленстве дзесьці
І ўсё зарыфмаваў,
Што ёсць на гэтым свеце.
Ды покуль знітаваў
Мінулае з сучасным,
Я ў тэме ТОЙ адстаў...
Ці даганю, няшчасны?
Я за табой сачу,
І страшна ў тым прызнацца,
Што страсна так хачу
З табою зрыфмавацца.
Калі ў тым паспрыяць
Паэту не захочаш,
Дык стану сябраваць
Я з рыфмаю... жаночай!*

## Стрэс... ад прагрэсу

...а потым крыклівае радыё
акіянкай свет загадзіла,
потым прыйшло кіно —
у ружовы дурман завяло.
А нямала і сёння пакутаў —
цяпер вінаваты камп'ютэр...

**Алесь ЧОБАТ**

*Цяпер чалавек з-за прагрэсу
не выходзіць, бадай, са стрэсу.
Сметнікам слоў тое ж радыё
зямлю ўсю, лічы, загадзіла.
Ну, а розныя шахты, метро
разарвалі планеце нутро.
Дабрыню ў чалавечай душы
тэлевізар зусім задушыў.
Студэнты жылі ў інтэрнаце,
цяпер яны ўсе ў інтэрнэце.
Пісьменнік раманы і драмы
камп'ютарам «піша» таксама,
Пушкін, заўважу без кпінаў,
пяром карыстаўся... гусіным.
Яго ж, дзеля ўласнай карысці,
не грэбаваў геній пагрызці.*

## Цвярозая развага

Хаджу ў задуме ціха між бярозаў
І, ап'янелы, можа, ўпершыню
Так разважаю аб жыцці цвяроза
І так высока сэнс яго цаню.

**Мікола АНТАНОЎСКІ**

*Хаджу кругамі я паміж бярозаў.
Адсюль шукаю выйсце — не знайду.
Ад думкі страшнай раптам
стаў цвярозы:
«А што, як тут, у лесе, прападу?»
Ды слоік трапіў мне якраз на вока,
А там, пад дрэвамі, стаяць яшчэ...
О, дзякуй, мілы нарыхтоўшчык соку,
Бо ў роце перасохла — аж пячэ.
Мо ўпершыню я разважаю цвяроза
Пра сэнс жыцця, хоць сок быў
хмельны той:
«Калі блукаць, дык толькі між бярозаў
І ранняю вясной, а не зімой!»*

Леанід ЛЕВАНОВІЧ

## Як заяц чалавека пабіў

*Гісторыйка*

Хочаце — верце, хочаце — не, але вось што мне расказаў аднойчы сусед дзед Аўхім:

— Здарылася гэта даўно, акурат напрадвесні, калі снег раставаў. Паехаў я на веласіпедзе ў райцэнтр. Дзе дарога падсохла — еду, дзе нізка — нясу ровар на плячах… Стаміўся, словам. Прыставіў веласіпед да хвойкі, а сам сеў на пянёк перадыхнуць. Раптам нехта як таўхане мяне ў спіну! Ды так моцна, што я ледзь не пакаціўся. Паварочваюся: заяц! Вялікі, рудавата-шэры. Склаў пярэднія лапкі, нібы просіць прабачэння, і калоціцца са страху. А тады як падхопіцца, як дасць драпака! Гляджу, а збоч дарогі другі зайка ўцякае…

Задумаўся я: чаму гэта заяц даў мне таўхеля? Чаму пайшоў на таран, не раўнуючы, як самалёт-знішчальнік? І дадумаўся! Гэта ж зайкі біліся за зайчыху! Вясна на дварэ: трэска на трэску лезе. Мацнейшы перамог і пагнаў слабейшага. Той уцякаў. Але ў час зглядзеў мяне і адскочыў убок, а мацак бачыць мяне не мог, вось і ўрэзаўся з разгону ў спіну! Ды так моцна лупянуў, што аж сіняк застаўся. Добра, што я з сабою ў дарогу бутэлечку ўзяў. Націраў-націраў хворае месца ды і заснуў…

Я дзеду Аўхіму паверыў, а вы?..




Малюнак Уладзіміра Чуглазава

Васіль ТКАЧОЎ

## Радасць

*З натуры*

Дадому стары Зюлеў вярнуўся надзвычай узрушаны і ўсхваляваны. Хуценька скінуў плашчык, павесіў на цвік капялюш.

— Цікава, чаму я такі радасны? — апярэдзіў ён жонку, якая выйшла яму насустрач з залы. — Адгадай!

— Ну, можа, дапамогу якую выдалі?

— Не ўгадала!

— Кашалёк з грашыма знайшоў? — устрапянулася жонка.

— Дробязі! Бяры вышэй!

Колькі ні гадала жонка, а прычыну радасці свайго мужа так і не назвала.

— Мне месца сёння ў тралейбусе ўступілі! — пляснуў Зэлеў у ладкі. — Запомні гэты дзень. Запішы дзе-небудзь... Будзем святкаваць. А ты — дапамога, кашалёк... Пазвані сыну, абрадуй і яго. Суседзям скажы. Няхай і яны парадуюцца... Радасць!..




Малюнак Алега Папова

Янусь МАЛЕЦ

## Янусельki-карацелькі

*(З запісных кніжак гумарыста)*

Аўтамабіль з павагай паглядзеў на веласіпед: «Бач ты, толькі два колы, а едзе!»

Колькі сабака ні мяўкай, а мышы ката баяцца.

Каб дрэнна біць па мячы, не абавязкова быць футбалістам.

Як жонка я цябе моцна кахаю, але зарплату аддай!

Рыбакам не варта лавіць вялікую рыбу. А раптам не хопіць размаху рук, каб паказаць яе памеры?

Калі мужчына шкадуе грошай на гарэлку, то ў мінулым жыцці ён хутчэй за ўсё быў жанчынай.

Новы венік іншы раз мяце па-старому, а зарплату атрымлівае па-новаму.

Нават калі вас білі па галаве, гэта яшчэ не азначае, што яна ў вас ёсць.

Нецвярозы трактарыст Васюткін цэлы дзень узворваў калгаснае поле і толькі пад вечар успомніў, што забыўся прычапіць да трактара плугі.

Жыхар горада Віцебска В. Вадагрэеў пасварыўся з жонкай і скокнуў з балкона 16-павярховага дома. У выніку набіў тры гузакі: першы паверх усё ж...

Мужчына з пачатковай адукацыяй, не забяспечаны жыллём, які пяць разоў сядзеў у турме, шукае сур'ёзную жанчыну з вышэйшай адукацыяй і кватэрай для стварэння моцнай сям'і.

Гультай — гэта той, хто ездзіць на ліфце з першага паверха на другі і абураецца, што ў ім няма сядзенняў.

Прадаецца аўтамабіль. Прабег усяго 100 кіламетраў. Адзіны недахоп: сапсаваны спідометр.




Малюнак Алега Папова

Міхась МІРАНОВІЧ

# Міранізмы

## Хто што збірае?

*У гаях,
Дзе бярозы, дубы,
Летам людзі
Збіраюць грыбы.
А ў бальніцах
Інакш ўсё ідзе:
Тут зімой
Грып збірае людзей.*

## Пятніца

*Шмат Рабінзон
Без жонкі бедаваў.
Так без жаночай ласкі
Было горка,
Што дзікуна
Ён Пятніцай назваў —
Не Панядзелкам, скажам,
Ці Аўторкам...*

## Трэцім будзеш?

*Якія часам
Дзіўныя мы людзі!..
Як прыклад
Я б наступнае згадаў —
Мяне пыталі часта:
— Трэцім будзеш?..
А я заўсёды
Першым быць жадаў!*

## Непрыгожы пол

*Ці, можа, чыйсьці
То прыкол
Адносна нас, мужчын,
Варожы:
Жанчын завуць
Прыгожы пол,
А мы, выходзіць,
Непрыгожы?..*




Малюнак Уладзіміра Чуглазава

Алена ЖЫХАРАВА

## Чаму сумуе Якуб Колас?

«Моўны» фельетон

*Гасподзь не абышоў цябе
Ні статнасцю, ні прыгажосцю.
Мой слаўны Мінск,
Люблю цябе,
Але трывожыць штосьці.*

*Куточкі, мілыя для ўсіх, —
У назвах іншамоўных.
Не зразумееш сэнсу іх,
Чужых загадак поўных.*

*Ужо не крамы — буцікі,
Не лазні — спа-салоны,
Адно ў парыльні венік свой,
Знаёмы ўсім, зялёны.*

*А беларускую карчму
Чамусь «бістро» назвалі,
І нашы дранікі на сале
Французскай ежай сталі.*

*Насупраць Коласа, як здзек, —
Бутэлька з кока-колай.
Білборд у вочы б'е
Чужой, не роднай мовай.*

*Напэўна, сорам Песняру
За нас, за гэту здраду:
Ён, апусціўшы галаву,
Нібы дае параду:*

*«Не дасць нам шчасця бляск чужы,
Не трэба спадзявацца.
А памяць зарасце быллём —
Тады кім будзем звацца?..»*

Віктар ЛОЎГАЧ

# З падслуханага

## Сорамна глядзець

Жанчына нясе з кірмаша пеўня галавою назад. Прахожы пытае:

— Чаму жыўнасць задам наперад нясеш?

— Рэзаць буду, — адказвае кабета. — Дык сорамна ў вочы глядзець.

## Падыміў

Каля вогнішча сядзіць дзед, курыць самасад. Да яго падыходзіць унук і просіць:

— Дзед, дай падыміць.

Стары бярэ з вогнішча галавешку і працягвае ўнуку:

— На, дымі: хіба мне шкада?

## Певень ці курыца?

Старая вясковая жанчына прадае на кірмашы птушку. Да яе падыходзіць пакупнік і пытае:

— Хто ў цябе, бабуля, певень ці курыца?

— Калі яек не нясе — певень, а калі нясе — курыца...

## Жыві сваёй галавой

Начальнік:

— Інжынер Іванчыкаў зайшоў да мяне са сваёй думкай, а выйшаў — з маёй.

Інжынер Іванчыкаў:

— Начальнік ёсць начальнік. Думка ягоная, а галава на плячах — мая...



# Алесь ГАЙДУК

# Вартаўнік

## *Апавяданне*

Захар прыехаў у вёску ў канцы лета. Тутэйшыя мясціны ўразілі сваёй прыгажосцю, неабсяжнымі прасторамі, высокімі пагоркамі. Упершыню ён бачыў высачэзныя шматгадовыя ліпы. Іх не абняць і тром чалавекам.

Рашэнне Захара прыехаць жыць у вёску было ў пэўнай ступені вымушаным. Усё жыццё ён працаваў на заводзе эканамістам, атрымаў кватэру, ажаніўся, меў двух дарослых сыноў. Але неяк раптам здарыўся эканамічны крызіс, прадпрыемства закрылі, і ён аказаўся беспрацоўным. Спрабаваў знайсці сабе новую працу, але не змог. І тады вырашыў здзейсніць даўнюю мару — паехаць жыць у вёску. Доўгі час ён сам сабе не прызнаваўся, што гэта мара жыла ў яго душы.

Захар хутка знайшоў сабе драўляны дом. З гаспадыняй, якая жыла ў суседняй вёсцы, дамовіўся арандаваць яго за мізэрную плату. Некалі тут жылі яе бацькі, але ўжо амаль дзесяць год як памерлі. На добры лад, дык яна павінна была плаціць Захару, бо як сам дом, так і ўся сядзіба былі ў страшна запушчаным стане. Падгнілі падрубы, драўляныя сцены паеў шашаль, комін разваліўся, працякаў шыферны дах. Унутры дома старая мэбля ўся была пакрыта плесняй і павуцінем. Па ўсім відаць, гаспадарамі тут даўно былі толькі мышы. Адзінае, што радавала вока, — печ, прыгожа абкладзеная вузкай цёмна-чырвонага колеру кафляй. Можна было спадзявацца: зімой у доме будзе цёпла. Стары сад зарос бур'яном і маладымі парасткамі яблынь.

Першым госцем стаў сабака Барсік. Ён без запрашэння забег у адчыненыя дзверы дома, спыніўся ля Захара на кухні і паглядзеў яму ў вочы. Няцяжка зразумець было, што гэта вочы галоднага сабакі. Па худых баках, на якіх выступалі рэбры, можна было зрабіць выснову, што кармілі яго не вельмі. Захар адрэзаў ладны кавалак чорнага хлеба, паклаў у міску, заліў малаком і прапанаваў сабаку. Той прагна накінуўся на ежу. Пасля гэтага Барсік усё часцей і часцей заглядваў на падворак, пакуль зусім не перабраўся да новага жыхара вёскі, аблюбаваўшы сабе месца на саломе ў хляве, куды мог без перашкоды залазіць пад зачыненыя дзверы. Ён аказаўся добрым сабакам, надзейна вартаваў дом, незнаёмых не пускаў, а вельмі настойлівых мог і пакусаць.

З суседзямі Захару пашанцавала. Зычлівыя, працавітыя, чым могуць, заўсёды дапамогуць. Яны адны ў вёсцы трымалі карову, і Захар дамовіўся купляць у іх малако. Дамашняе — не магазіннае, смачнейшае і заўсёды свежае. Уладзімір Канстанцінавіч, так звалі суседа, прынесіў трохлітровы шкляны слоік — толькі падоенае. Разводзіў ён і пчол, у садзе кешкаліся дзясяткі два курэй, у хляве карміліся два вепрукі. Дачка і старэйшы сын жылі з сем'ямі ў горадзе, але прыязджалі часта, дапамагалі спраўляцца з гаспадаркай. Казалі, што карову трымаюць апошні год, бо нестае сілы яе даглядаць. Сын суседа, таксама Уладзімір, прыехаў дапамагчы выкапаць бацькам бульбу, а вечарам завітаў да Захара, відаць, заінтрыгаваны расказамі бацькоў пра яго. Прынёс з сабой кавалак сала, кошык бульбы, крыху цыбулі і часнаку. Сам ён жыў у тым жа горадзе, дзе раней і Захар.

У гэтым годзе ў Азаранах нарасло многа яблыкаў. Самае дзіўнае было тое, што яблыкі не ўрадзілі нідзе, іх нават не было ў суседніх вёсках. А тут проста ламаліся галіны дрэў. Праўда, плады пачыналі гніць проста на яблынях, і калі іх нават акуратна зняць, то надоўга яны не захаваюцца. Можна было толькі варыць варэнне, ціснуць сок, закладваць у бочкі. Але добра ўжо тое, што ўсю восень іх можна было есці ўволю. Калі прыязджала да Захара жонка Валянціна, то ён набіраў ёй дзве поўныя сумкі для сваякоў. Хапала і для работнікаў аддзела, дзе яна працавала. Сумкі ёй цягаць асабліва не хацелася, Захар спачуваў ёй, але карцела хоць што-небудзь перадаць дзецям, тым больш што цэны на яблыкі вельмі кусаліся, да таго ж такіх смачных у горадзе яны не купіць.

Свінагадоўчая ферма, дзе Захар працаваў вартаўніком, раскінулася за вёскай на высокім пагорку і нядаўна набыла новага гаспадара ў асобе мясцовага хлебакамбіната. Раней яна належала калгасу, на землях якога размяшчалася. Але калгас залез у вялікія даўгі, якія не было чым аддаваць. Таму землі далучылі да багацейшага суседа, а ферма дасталася хлебакамбінату, які мог карміць свіней сваімі камбікармамі. Ферма набыла кепскую славу. Гаварылі, што тут трымалі нідзе не ўлічаную жывёлу, а куды яна пасля дзявалася, ніхто не ведае. Адны казалі, што мяса ішло на стол высокаму начальству, другія — на «левы» заробак. Нават была заведзена крымінальная справа на загадчыцу свінафермы. Яна сама гаварыла, што следчыя прымушалі яе даваць паказанні на высокіх чыноўнікаў. Але ў рэшце рэшт так справа і закончылася нічым, мясцовае начальства не ўдалося адправіць за краты. Адным словам, цёмная гісторыя. Яшчэ расказвалі, як тая ж загадчыца ў люты мароз выгнала з работы п'яную даглядчыцу. Яе затым выпадкова нехта знайшоў каля фермы. Дактары ледзь уратавалі жанчыну ад смерці, ампутавалі адмарожаную нагу вышэй калена.

Новыя гаспадары зрабілі касметычны рамонт, і ў хуткім часе сюды завезлі парасят. Спачатку дзвесце, а праз месяц яшчэ два разы па столькі. Пра ахову асабліва не клапаціліся. У плоце не хапала цэлых пралётаў. Уязныя вароты трымаліся на абы-як прывараных завесах, ноччу на вуліцы на слупе гарэў адзін ліхтар. Бытоўкі для вартаўнікоў абсталёўваць не спяшаліся, не правялі тэлефонную лінію. Калі якая патрэба, то кожны карыстаўся ўласным мабільнікам. Ад патрабаванняў вартаўнікоў начальства адмахвалася: маўляў, пачакайце, усё зробім, толькі пазней, калі з'явяцца грошы.

А тым часам парасяты, пастаянна добра накормленыя, раслі як на дражджах. Расказвалі, што дырэктар хлебакамбіната хваліўся ў райвыканкаме, быццам прывагі парасят у Азаранах складаюць два кілаграмы. А паспрабуй яго аспрэчыць. Ніхто парасят тут не ўзважваў, не было нават вагі. Дарэчы, ніхто іх тут і не пералічваў асабліва. І не за гарамі быў час, калі свіней накіруюць на мясакамбінат або проста прададуць.

Цэны на мяса ў крамах апошнім часам рэзка ўзраслі. Аднак камбінат адпускаў свініну жывой вагой яшчэ па старой цане. Свінаферма ў Азаранах была не адзіная. Прадавалі і для сваіх работнікаў. Кабана на дваіх. У адзін з візітаў на ферму ветурач, маладая дзяўчына, запыталася:

— А што гэта вы не купляеце свініну на камбінаце? Пішыце заявы, зайду да дырэктара і падпішу.

А чаму б і не. Усе вартаўнікі, а гэта чатыры чалавекі, напісалі заявы.

Усе строілі планы, як будуць распараджацца танным мясам. Жыва абмяркоўваліся рэцэпты прыгатавання сялянскай кілбасы, як яе яшчэ называюць, «пальцам пханай», спосабы засолкі сала. Але гэтым апетытным планам не наканавана было спраўдзіцца. У час наступнай сустрэчы ветурач расчаравана паведаміла:

— На жаль, не ўдалося вам дапамагчы. Дырэктар сказаў, што не можа падпісаць заявы, бо ў вас нізкія заробкі.

Захар неяк адразу не змог улавіць сувязь паміж заробкам і магчымасцю прадаць свініну. Убачыўшы яго разгубленасць, Даша, так звалі ветурача, патлумачыла:

— Кошт кабана памесячна ўтрымлівалецца з зарплаты па дзесяць працэнтаў. Калі вам яго адпусціць, то сума пагасіцца толькі праз некалькі год.

— Дык мы гатовы за мяса ўнесці ў касу наяўныя грошы, — прапанаваў пакуль толькі як варыянт вырашэння праблемы Захар.

Але Даша адхіліла такую прапанову:

— Тое ж самае я раіла дырэктару, але ён не згадзіўся. Маўляў, так адпускаць заборонена па законе.

У гэта верылася з цяжкасцю. Відаць, былі нейкія іншыя прычыны такіх адносін да іх просьбы.

— Ну вы, хлопцы, мастакі. У вас тут столькі бясплатнага мяса. Шыла ў бок — і на шашлычок, — узяў удзел у размове адзін з будаўнікоў, якія яшчэ працягвалі рамонт на ферме.

— У цябе адно не спыталіся, алкаш, — абсекла яго Даша, ведаючы, што ён толькі выйшаў з запою. Нягледзячы на маладыя ўзрост, ветурач мела дастатковы вопыт, як трымаць сябе з людзьмі падобнай катэгорыі. Яна адчувала няёмкасць, што абнадзеіла людзей і не змагла падтрымаць матэрыяльна. Вартаўнікі ёй падабаліся: спіртное не ўжывалі, дапамагалі рабіць прышчэпкі парасятам, хаця і не былі абавязаны.

Не чакаючы такога павароту падзей, Захар адчуваў, што яму трэба неяк дастойна адрэагаваць на пачутае:

— Увогуле, мы не супраць, калі дырэктар нам падыме заработную плату або хаця б павесіць яшчэ адну лямпачку каля свінарніка.

Як ні дзіўна, але Захар адчуваў нават нейкую палёгку ад таго, што ім адмовілі. Інакш давялося б ламаць галаву, як перапрацаваць кабана, як захаваць мяса і сала. Маленькая маразільная камера яго старэнькага халадзільніка яўна не была для гэтага прызначана. Ды і нашто яму столькі прадуктаў.

Большую частку дзяжурства вартаўнікі праводзілі ў старажоўцы, з акна якой добра былі відаць уязныя вароты. Недзе адзін раз у гадзіну Захар рабіў абход усёй тэрыторыі фермы з ліхтарыкам. На дзяжурства заўсёды браў з сабой Барсіка. Калі хто паяўляўся нават паблізу фермы, той падаваў знак сваім брэхам. Захар добра навучыўся пазнаваць яго голас і нават мог вылучыць сярод галасоў іншых вясковых сабак.

Ноч выдалася цёмная, неба зацягнулі хмары, церусіў дробны дождж. У поўнач Захар апрануў куртку і выйшаў на вуліцу на чарговы абход. У святле адзінага ліхтара на слупе ад дажджу бліШчэлі лісты клёна, на зямлі жаўцела куча пілавіння на подсціл жывёле. Барсік, убачыўшы гаспадара, радасна завіхляў хвастом і знік у цемры, добра ведаючы маршрут Захара. Ён заўсёды бег далёка спераду. Нечакана недзе за свінарнікам пачуўся яго голас. Там быў нехта чужы. Здаралася рознае. Бывала, сюды забрыдалі вясковыя сабакі, які-небудзь звер з лесу. Але як бы там ні было, першай у вартаўніка заўсёды ўзнікала думка пра аматараў пажывіцца свінінкай. Захар напружыўся. Сабака заенчыў і сціх. Вартаўнік асцярожна адамкнуў вароты і ціха зайшоў па прыступках у свінарнік на бетонную пляцоўку, на якой даглядчыкі насыпалі ў кармушкі камбікорм. Не дарэмна брахаў Барсік.

Задняя вароты сярэдняга бокса, у якім яшчэ не паставілі на адкорм парасят, былі адчынены. У бокс заехаў невялікі фургончык з нацягнутым брызентам на кузаве, задні борцік быў адкінуты. Каля машыны завіхаліся трое мужчын. Двое з іх былі маладымі хлопцамі ў цёмных куртках і ў спартыўных шапках, фізічна добра складзеныя. Трэці — сталага ўзросту — мог быць ім бацькам. Ён тут усім і распараджаўся. У цьмяным святле лямпачкі твары было цяжка распазнаць. Яны грузілі забітых свіней. Адзін з іх выпраміўся, падставіўся пад святло лямпачкі, і Захар пазнаў яго. Гэта быў сын адной з даглядчыц. Некалькі разоў ён прыходзіў дапамагаць маці на ферме. Вучыўся ў ПТВ у райцэнтры на аўтаслесара, на выхадных прыязджаў дахаты.

Вартаўнік прыкінуў: у дыялог са злодзеямі ўступаць яму не варта. Сілы былі няроўныя, а разлічваць, што яны спужаюцца і пабягуць уцякаць, не даводзілася. Хто-хто, а сын даглядчыцы выдатна ведаў, што, апрача Захара, на ферме больш нікога няма. Вартаўнік хуценька дастаў з кішэні мабільны тэлефон і націснуў кнопку, якая была настроена на нумар бліжэйшага аддзялення міліцыі. Чакаць, калі на другім канцы ўстановяць сувязь з ім, было неабавязкова. Дамаўляліся, што калі вартаўнік не будзе адказваць, то міліцыя неадкладна выедзе на дапамогу. Усе іх тэлефоны запісаны ў дзяжурнай часці. Да бліжэйшага аддзялення восем кіламетраў. Калі апаратыўна зрэагуюць, то мінут праз дваццаць з'явяцца на ферме.

Захар павярнуўся да дзвярэй і ўбачыў перад сабой яшчэ аднаго рабаўніка. Сярэдняга росту, у спартыўнай куртцы сіняга колеру, каротка пастрыжаны, з гарбатым носам на выцягнутым твары, ён ужо замахнуўся тоўстай арматурынай, каб ударыць Захара. Бакавым зрокам апошні ўбачыў злева каля кармушкі сякеру, якую днём забыліся будаўнікі, парамантаваўшы дзверы. Ухіліўшыся ад удару, а рэакцыя ў яго была выдатная, бо некалі сур'ёзна займаўся боксам і да пераезду ў вёску пасля работы пастаянна гуляў у настольны тэніс, вартаўнік схапіў сякеру.

Злодзей рухнуў як сноп. Захар спужаўся: толькі цяпер да яго дайшло, што, хутчэй за ўсё, забіў чалавека. Прычым зрабіў гэта амаль аўтаматычна: проста зрэагаваў на пагрозу свайму жыццю. На некаторы момант аслупянеў. Гэтага часу хапіла астатнім рабаўнікам, якія былі ўжо сведкамі сутычкі, каб дабегчы да дзвярэй. Захар, пачуўшы шорах ззаду, нават не паспеў павярнуцца, як адчуў моцны, вельмі балючы ўдар па галаве, пасля якога страціў прытомнасць.

Ачуўся Захар у рэанімацыі раённай бальніцы. Атрымаўшы званок, узброены нарад міліцыі адразу ж выехаў на ферму. Рабаўнікоў яны перахапілі на дарозе за вёскай. Разам з заколатымі свіннямі ў фургончыку яны везлі труп свайго кампаньёна. Прыехаўшы на ферму, міліцыя тут жа выклікала хуткую дапамогу. Выжыў Захар цудам, але ўжо застанецца калекам на ўсё жыццё.

Праз некалькі дзён, калі яму стала лепей, яго перавялі ў хірургічнае аддзяленне. Прыехалі жонка і сыны. Яны доўга моўчкі сядзелі каля ложка. Урэшце старэйшы сын спытаў:

— Як ты сябе адчуваеш, бацька?

— Жывы, дзякуй богу. Папраўлюся, вы за мяне не хвалюйцеся. Дактары сказалі, што магло быць і горш, — ён стараўся быць бадзёрым.

Жонка з недаверам паглядзела на яго. У вачах яе чытаўся дакор: «Я ж табе гаварыла, што не трэба было ехаць у гэту вёску. Пражылі б як-небудзь». Што цяпер шкадаваць, час назад не вернеш. Захар, гледзячы на самых дарагіх для яго людзей, з болем у душы падумаў, што ўсё жыццё больш клапаціўся пра сябе, чым пра іх. І гэта паездка ў вёску, хаця і мела нейкі сэнс, усё ж была ахвярай яго марам.

# Тэатр новага пакалення

Жана ЛАШКЕВІЧ,
Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Тры гады на сцэне Дома літаратара далі нечаканы плён: дзіцячая свядомасць знітавала тэатр (Тэатр юнага гледача) з літаратурай (у школе не гавораць пра літаратараў, там вывучаюць пісьменнікаўпаэтаў). А літаратура, як высветлілася з дзецьмі, — гэта ўпарадкаваныя словы... ну яшчэ і думкі. Але спачатку трэба ведаць словы!

...І аднойчы ў глядзельнай зале знайшлася дзяўчынка, якая ведала беларускае слова «вакацыі». Потым — дзеці, якім дужа спадабалася гульня ў словы перад спектаклем — тэатральным педагогам рупіла, каб перакладу не вымагала якое-небудь «люстэрка» альбо «бяспека». А неўзабаве на рэпліку ў залу «і што будзем рабіць?» дзеці загулі: «Даруем», «Прабачым»... «Простим... калі ласка!»

Гэткія выпадкі — выключныя. Але па суботах і нядзелях ледзь не палову залы на дзіцячым спектаклі займаюць дарослыя. Яны таксама гуляюць у словы і просяць за чарговага сцэнічнага ашуканца (бавяць час з дзіцем і разам выбіраюць заняткі).

Яшчэ ў 1995 годзе такі сумесны тэатральны паход быў выключным... Калі гаворку пра тэатр для ўсёй сям'і распачаў рэжысёр-педагог і мастацкі кіраўнік тэатра Андрэй Андросік. Яму рупіла змяніць стаўленне да ТЮГа паводле ідэі, якая праз колькі гадоў загучала як «Тэатр юнага гледача — наш сямейны тэатр». Сёння ў працяг канцэпцыі «сямейнага тэатра» загучала фармулёўка пра «тэатр новага пакалення».

> *За час маёй працы мы паставілі 16 мабільных спектакляў, якія падыходзяць для розных сцэн. На маю думку, гэта захавала трупу. У акцёрах ТЮГа бачу вялікі патэнцыял, які трэба развіваць. Але калі акцёр іграе толькі ў дзіцячых спектаклях, яго праца ідзе па коле, бо ў такіх пастаноўках няма паўтонаў. Іншая справа — спектаклі для моладзі і для дарослых. У іх часам атрымліваецца, што 2+2=5. Такія спектаклі часцей заканчваюцца пытаннямі. Я — за «тэатр пытанняў». Таму, на маю думку, наяўнасць добрых вячэрніх спектакляў — абавязковая ўмова для пастаноўкі паспяховых дзіцячых спектакляў і росту акцёрскага майстэрства.*
>
> **У. Савіцкі**

> *У працяг канцэпцыі «сямейнага тэатра» я б прапанаваў фармулёўку «тэатр новага пакалення». Гаворка з гледачом не можа не заклікаць да паэзіі, высокіх адчуванняў і пачуццяў. На іх грунтуюцца ўсе лепшыя творы сусветнай літаратуры — ад «Рамэа і Джульеты» да «Альпійскай балады». Менавіта таму наша афіша павінна складацца з нацыянальнай і сусветнай класікі.*
>
> **У. Савіцкі**

Пра тэатр новага пакалення дбае сённяшні мастацкі кіраўнік Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача Уладзімір Савіцкі. Ён не ўхваляе падзелу рэжысуры на дзіцячую і недзіцячую. Ён намагаецца асвойтаць і паразумець гледачоў з сучаснай тэатральнай мовай і эстэтыкай, а перадусім — прышчапіць павагу да слова напісанага і моўленага. Да літаратуры...

...Школьнікаў прывезлі з Баранавіч аўтобусам — на экскурсію ў Мінск (былі такія мэтавыя выезды ў сталіцу ў сямідзясятыя гады). З абавязковым наведваннем тэатра. Як высветлілася, Купалаўскага. На спектаклі баранавіцкі школьнік Савіцкі (чацвёрты клас!) атрымаў моцны культурны шок... Мабыць, той, які ў антычным тэатры называлі катарсісам. Хацелася б пажартаваць, што пасля ён намагаўся апрытомнець у школьнай самадзейнасці, у Інстытуце культуры (цяпер — Універсітэт культуры і мастацтваў), у Тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер — Беларуская акадэмія мастацтваў), а таксама на сцэнах студый і тэатраў, у тым ліку славутага Купалаўскага — дваццаць гадоў. Рэжысёрам. Да ўсяго паслядоўна вывучаў, прапагандаваў і перакладаў на сцэнічную мову лепшыя творы беларускай нацыянальнай літаратуры, з'яўляецца аўтарам дзевяці інсцэніровак паводле нацыянальнай і сусветнай літаратуры, адзначаных прызамі і ўзнагародамі на драматургічных конкурсах... У выніку «...у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы паставіў спектаклі «Беларусь у фантастычных апавяданнях» паводле Я. Баршчэўскага, «Балада пра каханне» паводле «Альпійскай балады» В. Быкава, «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Сны аб Беларусі» паводле У. Караткевіча... На сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску — «Ветрагонаў» У. Галубка і «Апошніх сведак» С. Алексіевіч, у Брэсцкім тэатры драмы і музыкі — «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы, у Мінскім абласным драматычным тэатры — «Свінтус грандыёзус» паводле Кандрата Крапівы...» Дададамо, што першымі педагогамі рэжысёра Савіцкага былі купалаўскія артысты — якраз тыя, што скаланулі, прасякнулі ды перакулілі свет баранавіцкага школьніка ў чацвёртым класе...

Час Уладзіміра Савіцкага — дзейнічаць гэткім чынам — моцна пасунуўся. Савіцкі важыцца стварыць тэатр новага пакалення з адпаведным мысленнем і запатрабаваннямі. Ужывае свае досвед, налаўчонасць і майстэрства. Узараная ўжо «Міхалава зямля» — спектакль паводле «Новай зямлі» Якуба Коласа, распрастаныя «Майго юнацтва крылы» паводле «Хамуціуса» Аркадзя Куляшова, ганараванa Другой нацыянальнай прэміяй работа артыста Аляксандра Палажкова ў «Пане міністры» Францішка Аляхновіча, рыхтуецца да прэм'еры «Зацюканы апостал» Андрэя Макаёнка. Але чародка пытанняў, якія разглядаліся дзіцячым тэатрам дзесяцьдваццаць гадоў таму,ператварылася з радоўкі ў чараду; пытанні пацяжэлі і пабольшалі, да агульначалавечых дадаліся тутэйшыя. Вызначэнне «тюгаўскі глядач» вымагае сацыялагічнага даследу: такім розным, адрозным і размаітым пятнаццаць гадоў таму глядач не быў, а беларускую драматургію для яго няможна назваць фенаменальнай і росквітнай.

Працяглы рамонт стацыянарнай сцэны пагражаў знішчыць трупу як з'яву, і першае, што відавочна ўдалося спраўдзіць, дык гэта зберагчы артыстаў. І распачаць доўгі, падрабязны пераход з вуліцы Фрунзэ на вуліцу Энгельса, з Дома літаратара ў Тэатр юнага гледача. Гэтым ён цяпер і займаецца. На чарзе — стварэнне (аднаўленне) дзіцячай студыі пры тэатры, міжнародны фестываль тэатраў для дзяцей і юнацтва, цэнтр нацыянальнай дзіцячай драматургіі і ўласна тэатр — новага пакалення.

> *Што да непасрэдных планаў, зразумела, будзем адаптаваць наш рэпертуар з улікам магчымасцей новай сцэны. Частка спектакляў будзе ісці і далей. Ад асобных давядзецца адмовіцца. Плануем адкрыць будынак пасля рэканструкцыі музычнай феерыяй «Сіняя птушка» паводле аднайменнага твора М. Метэрлінка і паказаць у пастаноўцы ўсе тэхнічныя магчымасці новай сцэны. Сярод іншых назваў для рэпертуару — «Прынцэса Кру» Ф. Бернет (у нас доўгія гады ідзе спектакль «Маленькі лорд Фаўнтлярой» паводле яе рамана), «Прададзены смех» Дж. Круса, дзве пастаноўкі па казках К. Чапека і У. Караткевіча. Для дарослай аўдыторыі запланаваны «Дон Кіхот» (п'есы М. Булгакава паводле знакамітага рамана М. Сервантэса) і «Зацюканы апостал» А. Макаёнка (апошняя прэм'ера чакаецца ў канцы красавіка).*
>
> **У. Савіцкі**

*Повязі*

# Коласаўскае прывітанне з расійскай глыбінкі...

Гэты ліст чамусьці прыйшоў на адрас Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Магчыма, хтосьці падказаў нашаму карэспандэнту менавіта гэты адрас. А можа быць, па прычыне таго, што Якуб Колас нарадзіўся на Міншчыне, аўтар вырашыў звярнуцца да нас...

Мікола ЖАЛЕЗІНКА

«Добры дзень, паважаныя беларускія таварышы! — піша Мікалай Умаравіч Мустафін з Ніжагародскай вобласці. А далей гаворыць пра прычыну, што падштурхнула яго да ліставання: — ...Хачу ўзнавіць у памяці адну выдатную падзею ў маім жыцці. У 1972 годзе напярэдадні 90-гадовага юбілею з дня нараджэння Якуба Коласа на наш суднабудаўнічы завод «ОКА» ў г. Навашына Ніжагародскай вобласці прыйшло запрашэнне на двух чалавек наведаць Беларусь на ўрачыстыя дні. Справа ў тым, што наш завод пабудаваў сухагруз, якому надалі імя Якуба Коласа. Калі спускалі судна на ваду, мы запрасілі дэлегацыю з Беларусі, якая складалася з членаў сям'і пісьменніка і членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі...»

Тут хацелася б некалькі слоў сказаць пра завод і пра сам горад. Навашына — раённы цэнтр, за 158 кіламетраў ад Ніжняга Ноўгарада. Заснаваны ў 1957 годзе: шляхам зліцця пасёлка Мардаўшчыкова і сяла Ліпня. Да рэвалюцыі Ліпня — цэнтр воласці ў Мурамскім павеце Уладзімірскай вобласці. З прамысловых прадпрыемстваў найбольш буйное — суднабудаўнічы завод (цяпер — ААТ «Окская суднаверф»). Стаіць Навашына на правым беразе ракі Ака. Окская суднаверф была заснавана ў 1907 годзе. З таго часу і пачалі ў Навашыне будаваць караблі для марскіх і рачных прастораў. І сёння тут будуюць танкеры, якія адпавядаюць міжнародным стандартам. У 1982 годзе прадпрыемства было ўзнагароджана ардэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

І яшчэ адно адступленне. Імя Якуба Коласа носіць Мінскі паліграфічны камбінат. А таксама — Нацыянальны драматычны тэатр у Віцебску. Імя паэта нададзена дзясяткам вуліц. І не толькі ў гарадах, гарадскіх пасёлках Беларусі. У даведніку «Іх імёнамі названы...» (Мінск, 1987) згадваецца і цеплаход з імем Коласа, а вось пра сухагруз — ні слова.

З ліста Мікалая Мустафіна: «...Дырэктар завода Сяргей Волкаў, які, на вялікі жаль, ндаўна пайшоў з жыцця, у якасці заахвочвання запрасіў мяне з сабою, як лепшага работніка па сваёй прафесіі. 3 лістапада 1972 года ў Мінску нас сустракалі таварышы з Саюза пісьменнікаў на чале з Л. Я. Прокшам. Пасля невялікага адпачынку нас запрасілі на адкрыццё помніка Якубу Коласу, дзе я і пазнаёміўся з галоўным скульптарам Азгурам...» Згадаем, што гаварыў па завяршэнні сваёй працы сам скульптар (цытую паводле яго ўспамінаў): «Калі мая задумка была ўвасоблена, мне не падалося дзіўным, што я ўбачыў на плошчы Якуба Коласа — васьміметровага мудрага чалавека і спадарожнікаў яго жыцця. І Сымонмузыка, і чароўная Ганна, і магутны дзед Талаш, і Панас, які як быццам узмужнеў у гады Айчыннай вайны і стаў сімвалам непрыняцця прыгнёту, сімвалам вальналюбства беларусаў...

Мара мая здзейснілася. Мне здаецца, што менавіта такім быў вялікі мастак Якуб Колас. Бо як жа інакай ён мог бы ўмясціць у сябе народ беларускі. А ён — як ніхто! — беспамылкова гэта можна сказаць, умясціў у «Дрыгве» і ў «Новай зямлі», у радках і старонках неўміручай паэзіі і сумленнай прозы жывую душу суайчыннікаў сваіх.

Я ведаў яго. Сябраваў з ім. І быў абавязаны сказаць пра яго...»

Відаць, менавіта такі настрой скульптара перадаўся і токару з Навашына, бо і сёння помніцца яму сустрэча з Заірам Азгурам.

«У гэты ж дзень мы прымалі ўдзел ва ўрачыстым сходзе, прысвечаным 90-гадоваму юбілею Якуба Коласа. У прэзідыуме, дзе мы сядзелі, я ўбачыў выдатных паэтаў, пісьменнікаў з усёй нашай краіны. Карыстаючыся нагодай, я ўзяў аўтографы ў некаторых з іх: Р. Раждзественскага, Е. Лось, М. Танка, С. Алейніка і інш. На гэтым сходзе С. П. Волкаў выступіў з прывітаннем, уручыў ад імя работнікаў завода «ОКА» віншавальны адрас і макет карабля з імем Якуба Коласа таварышу Машэраву. Усе ўдзельнікі вечара падняліся і стоячы віталі нас гучнымі воплескамі. Мы адчулі гонар за свой калектыў, які зрабіў і дадзены макет, калі таварыш Машэраў, адсунуўшы сувеніры іншых дэлегацый і падзякаваўшы нам, паставіў карабель перад сабою. Для мяне, радавога токара, гэта сталася незабыўнай падзеяй, якая застанецца ў памяці да канца жыцця.

У час знаходжання ў Мінску мы наведалі музей Якуба Коласа, дзе пакінулі запіс у кнізе ганаровых гасцей. Сям'я Якуба Коласа запрасіла нас да сябе дадому на вячэру. Нам вельмі спадабалася гасціннасць і добразычлівасць гаспадароў дома...»

Госці з Навашына пабывалі і на ўрадавым прыёме. Наведалі таксама мемарыяльны комплекс «Хатынь». Былі і ўрачыстыя праводзіны, на развітанне беларускія пісьменнікі падзякавалі карабелам за прыезд, за падарунак, за тое, што так ушанавалі імя Якуба Коласа. «У памяць пра гэтую падзею, — згадвае Мікалай Умаравіч, — я захоўваю да гэтай пары юбілейны медаль Якуба Коласа і мініяцюрны зборнік вершаў...» І вось што піша далей расійскі карэспандэнт: «У сувязі з 130-годдзем Я. Коласа хачу павіншаваць вас і ўвесь гасцінны і працалюбівы народ Беларусі з гэтай падзеяй. Жадаю здароўя, дабрабыту і росквіту!..» Ліст з невялікага расійскага горада нагадаў: памяць пра Якуба Коласа прысутнічае, жыве не толькі ў Беларусі.

# Запрашаем да чытання!

Вясновыя канікулы ў школе традыцыйна распачынае іншае свята, дакладней, цэлы комплекс свят — Тыдзень дзіцячай кнігі. Сёлета ён адзначаны трыма незвычайнымі юбілеямі: 100-годдзем вядомага пісьменніка Сяргея Міхалкова, 100-годдзем аўтара знакамітых «Дзяніскавых апавяданняў» Віктара Драгунскага і 70-годдзем саміх «Кніжкіных імянін».

**Юзэфа ВОЎК**

Упершыню свята кнігі, якое ў той час яшчэ мела назву «Кніжкіны імяніны», было праведзена па ініцыятыве дзіцячага пісьменніка Льва Касіля 26 сакавіка 1943 года ў Маскве. Актыўны ўдзел у мерапрыемстве бралі вядомыя пісьменнікі Самуіл Маршак, Агнія Барто, Сяргей Міхалкоў, Міхаіл Прышвін. Ужо з наступнага года Тыдзень дзіцячай кнігі стаў усесаюзным і атрымаў новую назву, якую ён мае і цяпер.

Нягледзячы на тое, што комплекс імпрэз завецца Тыднем, фактычна ахопліваюць яны большы прамежак часу. У некаторых бібліятэках краіны свята распачалося яшчэ напрыканцы мінулага тыдня, у пятніцу, дзесьці «стартавала» ў панядзелак, а супрацоўнікі асобных кніжніц вырашылі, што лагічней будзе, калі пачатак беларускага свята амаль супадзе з Міжнародным днём дзіцячай кнігі, што адзначаецца ў дзень народзін Ханса Крысціяна Андэрсена, 2 красавіка. Так, у ліку мерапрыемстваў Тыдня — сустрэчы з вядомымі беларускімі дзіцячымі пісьменнікамі Раісай Баравіковай, Уладзімірам Мазго, Андрэем Смятаніным, Уладзімірам Ягоўдзікам. Шмат імпрэз у сталіцы было (і яшчэ будзе) прысвечана сёлетняму юбіляру Сяргею Міхалкову, а ў Брэсцкай абласной бібліятэцы імя М. Горкага звярнуліся да спадчыны Віктара Драгунскага.



*Фота Кастуся Дробава*

У цэнтры ўвагі арганізатараў і наведвальнікаў мерапрыемстваў апынуліся не толькі кнігі, але і часопісы для дзяцей. Да прыкладу, сталічная дзіцячая бібліятэка № 15 прапанавала выстаўку «Часопіс — акно ў свет», тут жа з удзелам супрацоўнікаў рэдакцыі гэтага выдання прайшло незвычайнае падарожжа «Што схавана ў "Рюкзачке"?».

Праграма сёлетняга свята дзіцячай кнігі ў бібліятэках краіны надзвычай насычаная. Значна і тое, што да традыцыі правядзення імпрэз падчас вясновых школьных канікул далучаныя не толькі ўсе сталічныя і абласныя бібліятэкі, але і маленькія бібліятэчкі раённых цэнтраў і нават вёсак. Адметнае мерапрыемства прайшло ў сельскай бібліятэцы вёскі Вялікая Ухалода, што ў Барысаўскім раёне. Адкрыццё Тыдня было прысвечана беларускаму дзіцячаму часопісу «Вясёлка». Вучні Вялікаўхалодскай школы разам з бібліятэкарамі нават інсцэніравалі казку-п'есу «Няхайззяе "Вясёлка"» пісьменніцы-казачніцы Алены Масла.

На некаторыя імпрэзы, дарэчы, вы яшчэ паспееце.

Так, 1 красавіка распачнецца «Марафон цікавых падзей» (сустрэчы з дзіцячымі пісьменнікамі і прадстаўнікамі выдавецтваў) у Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы імя М. Астроўскага. Працягнецца ён аж да 5 красавіка.

З 1 па 6 красавіка «Дні аднаго аўтара» будуць праходзіць у дзіцячай бібліятэцы № 3.

Яркім фінальным акордам Тыдня дзіцячай кнігі стане сямейнае свята «А ў бібліятэцы...», якое пройдзе 6 красавіка ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы імя М. Астроўскага.

Усе па кнігі, усе ў бібліятэкі!

# Як намаляваць сны?

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Пагадзіцеся, складанае пытанне. Але мастачка Аксана Аракчэева мае на яго свой арыгінальны адказ — у выглядзе рознакаляровых аблокаў. Менавіта так выглядаюць сны ў кнізе вершаў Ніны Галіноўскай «Звяры ў трамваі» (выдавецтва «Мастацкая літаратура»). Прэзентацыя гэтага выдання для дзяцей, а таксама кнігі казак Алеся Карлюкевіча «Як Зайка Бяляк Мядзведзя Таптыгіна выратаваў» (выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі») прайшла ў сталічным «Кніжным салоне». Над афармленнем абедзвюх кніг працавала Аксана Барысаўна, таму на сценах салона ў гэты вечар размясціліся героі казак і вершаў. Натуральна, у выглядзе малюнкаў.

Часам выпадковае знаёмства можа ў будучыні значна паўплываць на лёс і творчасць асоб. Так здарылася і з тандэмам пісьменніка Ніны Галіноўскай і мастачка Аксаны Акракчэевай. Яны ўпершыню сустрэліся ў сталічнай школе № 185, куды пісьменніца завітала на адкрыты ўрок, а мастачка — на працу (у гэтай школе яна выкладае малюнак, жывапіс і кампазіцыю). І таму, калі ў выдавецтве ўзнікла пытанне, хто будзе афармляць новую кнігу Ніны Васільеўны, пісьменніца не вагаючыся выбрала Аксану Барысаўну.

— Выдатна, калі мастак з'яўляецца тваім суаўтарам, — падчас прэзентацыі падкрэсліла Ніна Галіноўская. — У мастака свая фантазія, якая дапаўняе думку аўтара і прыцягвае да твора ўвагу. Раней мае кнігі афармляліся ў больш класічным стылі, тут жа мастачка прапанавала тое, што прымушае маленькага чытача задумацца, а не проста ўспрымаць знаёмыя вобразы на малюнку. Аксана Барысаўна разумее аўтара і ў той жа час адчувае чытачоў, іх псіхалогію.

Пра адметнасці працы над сваёй новай кнігай распавёў на вечарыне пісьменнік Алесь Карлюкевіч:

— У гэтым выданні сабраныя адмысловыя казкі, яны пабудаваныя на краязнаўчым, этнаграфічным матэрыяле, які так ці інакш трапляў мне на вочы і накладваўся на фантазію. Калі не было магчымасці напісаць нарыс ці краязнаўчы артыкул, я пісаў казку. Так нарадзіліся гэтыя творы, але юнаму чытачу ў прынцыпе неважныя творчыя тэхналогіі і мастацкія парадыгмы, якімі карыстаюцца аўтары, яны павінны перш за ўсё быць зацікаўленыя кнігай. Мне гэтую дарогу дапамог прайсці мастак — Аксана Аракчэева.



*Фота Кастуся Дробава*

Аксана Аракчэева прадстаўляе кнігі са сваімі ілюстрацыямі.

Сама Аксана Барысаўна прызналася, што марыць стварыць свайго героя, кшталту Кратка чэшскага мастака Здэнэка Мілера, распавесці яго гісторыю і ў тэксце, і ў ілюстрацыі. Яна таксама падкрэсліла, што дзіцячыя кнігі — асноўная частка яе жыцця ў мастацтве, таму і выстаўка ілюстрацый атрымала назву «Намалюй сваё жыццё!».

— Калі я малюю кніжачкі, я ў іх жыву, — прызнаецца мастачка. — Я заўсёды прачытваю кнігу, удумваюся. Калі чытанне рукапісу заканчваецца, адразу ж пачынаю маляваць, каб як мага хутчэй распавесці гісторыю ў малюнках. І, скончыўшы працу над чарговым выданнем, пачынаю сумаваць па героях. Як і аўтар, малюю сваю гісторыю — акрамя той, што адбываецца непасрэдна ў кнізе.

*Прэзентацыя*

# У жанры казкі

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**




Уражлівым па сённяшнім часе тыражом — у 4000 экзэмпляраў — выдадзены «Мастацкай літаратурай» зборнік казак «Залаты талер». Пад адной вокладкай укладальнік Аксана Спрынчан сабрала творы 25 пісьменнікаў. Назву кнізе дала казка Міколы Кандратава пра цудоўнага песняра, сялянскага хлопца Добруся, які выратаваў жыццё прынцэсе. Сваімі казачнымі адкрыццямі з чытачом дзеляцца Алег Аблажэй, Генадзь Аўласенка, Алена Бабурэвіч, Анатоль Бутэвіч, Наталля Бучынская, Станіслаў Валодзька, Пятро Васючэнка, Янка Галубовіч, Анатоль Зэкаў, Ігар Кузьмініч, Уладзімір Ліпскі, Алена Масла, Уладзімір Мацвеенка, Таццяна Сівец, Людміла Рублеўская і іншыя аўтары. Кніга выдадзена ў серыі «Беларуская аўтарская казка», якая заснавана ў 2006 годзе.

У анатацыі да зборніка ёсць такія слушныя словы: «Няма ніводнага дарослага, а тым больш дзіцяці, якое б не любіла казкі. Уваходзіць у свет кнігі аўтарскіх казак «Залаты талер» можна і сам-насам, і ўсёй сям'ёй, і кампаніяй вясёлых і разумных сяброў...»

Серыя, якая стала ў «Мастацкай літаратуры» не проста добрай традыцыяй, а сапраўднай пляцоўкай для развіцця творчых памкненняў у казачным жанры, гуртуе і ўмацоўвае пэўны пісьменніцкі асяродак. Адметнасцю «Залатога талера» з'яўляецца і тое, што кніга афармлена малюнкамі навучэнцаў Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў (іх настаўнік — вядомы кніжны графік Рыта Цімохава). Марыя Станкевіч, Глеб Цімохаў, Максім Шніп, Соф'я Вардэванян, Ганна Неверава, Марыя Філіпава, Аляксандра Міхальчук, Крысціна Пержукова, Фёдар Ігнаткевіч, Алеся Жыткевіч, Ганна-Марыя Шпунт, Марыя Каратаева, Аляксандр Аверчанка, Дар'я Даманава, Данііл Агібалаў, Мікіта Кірэй, Артур Аўчыннікаў, Алена Самсановіч дапамагаюць чытачу ўнікнуць у мастацкую ідэю, робяць казачныя вобразы больш адкрытымі і прыцягальнымі. Розныя творчыя манеры юных мастакоў разумна спалучаюцца ў кнізе і ніколькі не звужаюць, а, наадварот, пашыраюць яе прастору.

Уважлівае прачытанне «Залатога талера», згадка пра мінулыя кнігі серыі «Беларуская аўтарская казка» пераконваюць, што наспеў час і адпаведную казачную анталогію выдаць. Зборнік падштурхоўвае і да наступных разваг. З многіх твораў маглі б вырасці і асобныя кнігі. У прыватнасці, працяг прагі відавочны, калі чытаеш творы Генадзя Аўласенкі, Алены Бабурэвіч, Наталлі Бучынскай, Ігара Кузьмініча, Пятра Васючэнкі, Алены Масла, Людмілы Рублеўскай... Так што будзем чакаць іх новых кніг, а яшчэ — новых зборнікаў «Мастацкай літаратуры» ў серыі «Беларуская аўтарская казка».

## Нататкі рамантычнага маркетолага



**Кацярына СІМАН**

# Што рабіць?

Яшчэ зусім нядаўна ў нас з вамі быў прафесійны год — Год кнігі. Несумненна, гэтыя 366 дзён запомніліся мноствам выставак, прэзентацый, праектаў і літаратурных чытанняў. Але абсалютна відавочна, што змяніць свет за год нельга, ды і не трэба. Гэта як экспрэс-дыета, выкананне якой прынясе арганізму больш шкоды, чым карысці. Таму год годам, а развіваць і падтрымліваць любоў да чытання неабходна, нягледзячы на планы, дэвізы і поры года. Чытанне павінна быць традыцыйным і відавочным, як аксіёма.

Чаму я вырашыла казаць пра гэта сёння? «Вінаваты» ва ўсім хлопчык год 12, які заходзіў разам са мной у метро і чытаў не адрываючыся звычайную папяровую кнігу. Палохаць дзіця фанатычнымі пытаннямі кніжніка я не стала. Але па вокладцы выдання было бачна, што чытаў хлопчык нешта з твораў у духу Уладзіслава Крапівіна. Прыкмета таго, што не ўсё так кепска з намі як нацыяй, якая чытае? Цалкам магчыма.

З аднаго боку, становішча такое. Псіхолагі сцвярджаюць, што сучасны падлетак не ў стане засяродзіцца на чым-небудзь больш як на 5 хвілін. Значыць, максімум дзіцячага ўспрымання — рэкламны ці музычны ролік. Ці не таму кнігі сталі «занудствам», што яны «жахліва доўгія»? Ці не адсюль з'яўляюцца меркаванні, падобныя да таго, што не так даўно ў адным са сваіх матэрыялаў апублікаваў вядомы беларускі партал? Школьнік Максім безапеляцыйна сцвярджае, што «...бібліятэкі — гэта не модна... у нас як: хто ходзіць па бібліятэках, лічацца «батанамі»... Кнігі ўжо надакучыла чытаць».

Як ні сумна, але бібліятэкі сталі прыносіць радасць толькі пажылым людзям, якія прыходзяць сюды па зносіны. Да таго ж, на пенсію не надта папоўніш паліцы хатняй бібліятэкі. Хоць часам і студэнт можа зазірнуць па матэрыял для рэферата. Гэта калі па нейкай прычыне не знайшлося патрэбнай інфармацыі ў інтэрнэце ці студэнт надта ўжо выдатнік. Дзеці ж зазіраюць у бібліятэчныя залы толькі на экскурсію з настаўнікам, калі гэта ўваходзіць у праграму абавязковых мерапрыемстваў.

Пры гэтым іншы бок з'явы вось які. У невялікіх правінцыяльных гарадах дзеці наведваюць бібліятэкі намнога часцей. Для нестالічных падлеткаў гэта цэнтры культурных забаў, дзе ім сапраўды цікава — ад душы, шчыра. Мегаполіс, як бы пафасна гэта ні гучала, разбэсціў і сапсаваў асноўныя прынцыпы ўладкавання свету. Харчуемся фастфудам, жывём з замяняльнікамі пачуццяў у выглядзе смайлікаў, а мегабайты запамповак падмянілі сапраўдныя веды.

Мікалай Гаўрылавіч не прамінуў бы пацікавіцца: «Што рабіць?» Не ведаю, у мяне няма адказу. Магчыма, варта вярнуцца да той традыцыйнасці, пра якую я казала вышэй? Мы ж паказваем немаўляці, як правільна карыстацца лыжкай і завязваць шнуркі. Дык чаму ж тут мы адмовіліся ад ролі настаўнікаў? Пакуль малы яшчэ няўпэўнена водзіць пальчыкам па старонках буквара — мы побач. Але як толькі першая казкі прачытаныя разам, мы сталі кідаць дзяцей у хвалі быцця без компаса і дакладных каштоўнасных арыенціраў.

Але менавіта сумеснае чытанне казак толькі пачынае збліжаць вас і ваша дзіця. Чароўны свет легенд і міфаў толькі акрэслівае для дзіцяці законы жыцця, узаемаадносіны паміж людзьмі. Гэта база, але не пакідайце працэс фарміравання сталай і развітай асобы на паўшляху. І вось тут я дакладна ведаю, што рабіць! Чытаць разам, выхоўваць літаратурны густ, абмяркоўваць прачытанае. Тады не будзе пустых бібліятэк і эканамічна немэтазгодных тыражоў.

## На паліцы

# Каб не забылі

**Так тлумачыў антычны гісторык Герадот сэнс сваёй працы. Тое ж самае могуць сказаць людзі, якія спрычыніліся да стварэння і выдання трох унікальных кніг — «Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст.», «Сучасная геральдыка Беларусі» і «Ваньковічы». Разам з імі была прэзентаваная праца архітэктара і мастацтвазнаўцы Аляксандра Лакоткі «Архітэктура Беларусі ў еўрапейскім і сусветным кантэксце». Усе кнігі пабачылі свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».**




**«Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст.»** — гэта 116 дакументаў апошняй волі жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, унесеных у актавыя кнігі гарадскіх і земскіх судоў Брэсцкага, Віцебскага, Мінскага, Навагрудскага і Слонімскага паветаў, а таксама горада Магілёва за 1559 — 1600 гг. Тэксты суправаджаюцца разгорнутым геаграфічным указальнікам і тлумачальным слоўнікам. Мова большасці дакументаў — старабеларуская, некалькі тастаментаў напісаныя па-старапольску. Аднак памылкай было б лічыць, што «Тастаменты...» — усяго толькі сухі і безжыццёвы збор афіцыйных папер. Важна разумець, што тастамент — унікальная па інфарматыўнасці гістарычная крыніца. Яна адлюстроўвае канфесійную прыналежнасць чалавека, яго маёмасны стан, склад сям'і, ступень адукаванасці і разам з тым — стаўленне да жыцця і смерці, да родных, да памяці. «Памяць чалавека вельмі кароткая, калі не падтрымана пісьмом», — прамаўляе перад тварам смерці адзін з «аўтараў». Менавіта апошні запавет можна аднесці да той нешматлікай катэгорыі дакументаў, у якіх выразна гучыць голас нашых продкаў.

Навукова-папулярнае выданне «Ваньковічы», прысвечанае старажытнаму шляхецкаму роду герба «Ліс», распачынае новую выдавецкую серыю «Беларускі радавод». Наступнай плануецца кніга пра род Святаполк-Мірскіх, сярод якіх былі славутыя мецэнаты, вайскоўцы і дзяржаўныя дзеячы.

Род Ваньковічаў прасочваецца з XVI стагоддзя. Яго прадстаўнікі звязаны з палітычным і мастацкім жыццём Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі, Францыі. Найбольш вядомыя — гэта, пэўна, мастак Валенцій Ваньковіч, чыя сядзіба ператварылася ў дом-музей, ды пісьменнік і журналіст Мельхіёр Ваньковіч. У кнізе змешчаны нават урывак аднаго з яго празаічных твораў. Дзякуючы выданню чытач можа ўбачыць унікальныя фотаздымкі і дакументы з асабістых архіваў нашчадкаў роду, даведацца пра яго легенды і новыя факты біяграфіі малавядомых прадстаўнікоў.




Найбольш блізкім да нашага часу бачыцца выданне **«Сучасная геральдыка Беларусі»**. У кнізе прыводзіцца падрабязнае апісанне і гісторыя стварэння гербаў і сцягоў 197 адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінак, а таксама кароткі курс гісторыі развіцця беларускай геральдыкі.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Айда ў дудары!




**Беларуская дударская традыцыя цягам апошніх 10 год развіваецца вельмі хуткімі тэмпамі. Выйшаў аўдыёдыск з найгрышамі, запісанымі яшчэ ў 30-я гады XX стагоддзя, альманах пра дударскі рух Беларусі, у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў з'явілася спецыялізацыя «Інструменты духавыя народныя», было зладжана шмат тэматычных фэстаў і канцэртаў, на якіх прадстаўлена ўся палітра выкарыстання беларускай дуды сёння, — ад фальклорных найгрышаў да ўжывання яе ў сучасных музычных плынях. Гэта ўсё стала вынікам працы ў першую чаргу энтузіястаў-дудароў. З папулярызацыяй інструмента павялічваецца і колькасць людзей, якія жадаюць навучыцца на ім іграць. Спецыяльна для іх была падрыхтавана кніга «Беларуская дуда: дапаможнік для пачынаючых музыкаў», што не так даўно пабачыла свет у выдавецтве «Ковчег».**

**Вячка КРАСУЛІН**

У кнізе дудары-навучэнцы могуць прачытаць кароткую гісторыю беларускай дуды, заснаваную на этнаінструментазнаўчых, этнаграфічных і фальклорных матэрыялах, даведацца пра сакральнае месца інструмента ў абрадавай фальклорнай дзейнасці і поўную далучанасць да мясцовай традыцыі. Так, дзякуючы даследчай рабоце Іны Назінай можна сцвярджаць, што ўпершыню існаванне дуды на тэрыторыі нашай краіны было дакументальна засведчана ў XV стагоддзі. Этнаграфічныя крыніцы XIX — пачатку XX стст. апісваюць дуду як інструмент «дзелі скокаў і плясаў розных», «бесклапотную весялуху», «агрунню», арганічна звязаную з танцам. Прыводзіцца гісторыя адраджэння беларускай школы ігры на дудзе ў пачатку 1980-х гадоў, калі майстры Уладзімір Пузыня, Уладзімір Гром і Алесь Лось зрабілі спробы па рэканструкцыі інструмента і заклалі падмурак сучаснага дударскага руху.

Дадзенае выданне з'яўляецца нядрэннай кампіляцыяй артыкулаў музыкаў, даследчыкаў і педагогаў: Зміцера Сасноўскага, Кацярыны Радзівілавай, Аляксея Бурнасенкі, Дзяніса Шматко, Аляксандра Сурбы. Тут можна даведацца, з якімі інструментамі дуда будзе стапрацэнтна добра гучаць, як прыкладна строіць дуды для розных пор года, тэмператур і надвор'я. Азнаёміўшыся з матэрыяламі, навучэнец-дудар зможа зразумець, як выбраць сабе дуду, як яе трымаць (але ёсць і іншае меркаванне, напрыклад, мой сябра-дудар сцвярджае, што трэба трымаць інструмент так, як зручна), як граць сольна і ў групе з іншымі музыкамі.

Самай вялікай хібай выдання можна назваць адсутнасць нотных прыкладаў для пачынаючых. У тэксце багата назваў дударскіх мелодый і найгрышаў да танцаў, але нот няма. Гэты недахоп мог бы з лёгкасцю выправіць мультымедыйны дадатак, напрыклад, з вядомымі дударскімі найгрышамі ў нотным і аўдыёварыянце. Таксама хацелася б убачыць інтэрв'ю з піянерамі адраджэнцкага дударскага руху (Алесем Лосем, Тодарам Кашкурэвічам, Уладзімірам Бярберавым), майстрамі новага пакалення (Юрасём Панкевічам, Дзянісам Сухім), музыкамі, якія выконваюць беларускі дударскі рэпертуар (Вячаславам Калацэем, Яўгенам Барышнікавым, Стасем Чавусам).

У выніку «Дапаможнік для пачынаючых музыкаў» можна назваць хутчэй кнігай з гістарычнымі звесткамі пра дуды на Беларусі ды інтэрв'ю з дударамі, якія маюць пэўны досвед ігры на інструменце. Атрымліваецца нешта кшталту дапаможніка дзеля дапаможніка. Трэба выпраўляць сітуацыю.

# Фундаментальная чудо-книга

Анастасия ГРИЩУК




Говорят, характер человека формируется до четырёх лет. То есть модели поведения, понятие о том, «что такое хорошо и что такое плохо», основные личностные черты закладываются ещё до того, как ребёнок научится читать. Поэтому, дорогие и измученные жизнью родители, не ленитесь, найдите в себе силы, откройте книгу и хотя бы час перед сном почитайте своему малышу. Если схалтурить при постройке фундамента, останется лишь уповать на Бога, чтобы дом в один прекрасный момент не рухнул.

Теперь другой вопрос: что читать? Понимаю, что времени на книжный крестовый поход у вас нет. И потом, пёстрые обёртки-обманки быстро утомляют. А вы попробуйте вспомнить своё детство. Стишки, сказки, считалочки. Михалков, Барто, Чуковский.

Вот оно, спасение: **«Чудо-книга для малышей»** вместила в себя едва ли не весь золотой фонд русской детской литературы. Сейчас чрезвычайно популярны всевозможные списки с приставками «топ», «хит» и т. д. «Чудо-книга для малышей» — это собрание лучшего из лучшего. Своеобразный парад литературных чемпионов.




«Тень-тень-потетень, села кошка на плетень...» В разделе «Потешки» можно найти знакомые с детства строки, которые, видимо, намертво засели в сознании. Ну кто из нас не подвергался в своё время насилию со стороны ужасной рогатой козы, которая почему-то всегда была озабочена нашим питанием?.. И до сих пор «идёт коза рогатая». Есть здесь и «петушок, петушок, золотой гребешок», и «пошёл котик во лесок, нашёл котик поясок», и «баю-баюшки-баю, не ложися на краю», и «— Ладушки, ладушки, где были? — У бабушки...» В определённый момент начинаешь понимать, что книга производит эффект «машины времени». Кажется, держишь в руках своё детство, и для того, чтобы вернуться туда, достаточно посидеть с книгой хотя бы десять минут.

И вот мы видим тёплый летний вечер. Во дворе играет маленькая девочка. Начинает темнеть. Девочка заигралась, и за ней выходит мама. «Спать пора», — говорит мама. На что девочка отвечает: «Уснул бычок, лёг в кроватку на бочок» — и убегает.

Над этой историей посмеялись уже не раз и не два. Девочка давно выросла. А стихи Агнии Барто всё так же любимы. А ведь подумать только! — «наша Таня громко плачет» над мячиком уже 79 лет. Но до сих пор дети роняют мишек на пол, бычок качается на досочке, а бесхозный зайка мокнет под дождём.

Есть в «Чудо-книге для малышей» и стихи Екатерины Серовой. Правда, они уже не кажутся такими незамысловатыми, как тексты Барто. Под каждое её творение можно подвести основу из современной жизни. Вот, например, стихотворение «Кто богаче?»:

*Хвалился крот богатыми*
*Подземными палатами —*
*Чего тут только нет:*
*И кухня, и столовая,*
*И спаленка кротовая,*
*И даже кабинет!*
*Бездомный зайка скачет*
*На травке возле пня:*
*— А я тебя богаче:*
*Есть солнце у меня!*

«Чудо-книга для малышей» может быть ещё и песенником. Один раздел посвящён текстам Михаила Пляцковского. Возможно, это имя вам мало о чём говорит, но песни на слова Михаила Спартаковича вы точно слышали: «Если добрый ты» из мультфильма про кота Леопольда («Если добрый ты, то всегда легко, а когда наоборот — трудно...»), «Улыбка» из мультфильма про крошку Енота («От улыбки станет день светлей...»), «Дружба крепкая не сломается» из мультфильма «Тимка и Димка». Когда читаешь его светлые, добрые, вечные тексты, в голове начинает играть музыка — не менее знаменитая — и так и тянет запеть. Но вам повезло, вы моего вокала не услышите.

А разве может обойтись детская книга без стихов Сергея Михалкова? Правда, «Дядя Стёпа» в сборник не вместился. Зато вновь прозвучали судьбоносные строки «А у нас в квартире газ. А у вас?» Кроме того, стихи про щенка Трезора, который вечно доставляет своим хозяевам уйму хлопот, про котят (напиши Сергей Михалков подобный стишок сейчас, а лучше — целую книгу о кошках, спрос был бы неимоверный), и песенка друзей:

*Мы едем, едем, едем*
*В далёкие края,*
*Хорошие соседи,*
*Счастливые друзья...*

...Давным-давно всё та же маленькая девочка, читавшая стихи Барто, знала наизусть сказку Корнея Чуковского «Муха-цокотуха», чему я теперь, честно признаться, удивляюсь. «Чудо-книга для малышей» приютила не только Муху с Комариком и прочей мошкарой, но ещё и Мойдодыра и доктора Айболита. Кстати, а вы знали, что у нашего доброго доктора есть брат-англичанин? В начале XX века британский писатель Хью Джон Лофтинг создал цикл произведений о докторе Дулиттле, который лечил животных. В 1998 году был снят фильм по мотивам романов Лофтинга «Доктор Дулиттл», и в главной роли снялся комик Эдди Мёрфи (его голосом говорит лучший Осёл в мире) .

На этом поэтическая часть книги заканчивается. Вторую — и большую — составляют русские народные сказки: «Репка», «Волк и семеро козлят», «Снегурочка», «По щучьему велению» и др.

Всё это богатство вы можете положить к ногам своих детей. А когда придёт время им самим учиться читать, могу предложить помощь — **«Азбуку для малышей»**. По одной букве, от Арбуза до Ящерицы, ребёнок познает величайшее таинство человечества — чтение.



# Как это устроено

Владимир ГОРЫНЬ




Век живи — век учись. Оказывается, вулканы изначально совсем не похожи на горы. Они рождаются из трещин в земной коре и уже потом благодаря (если так можно сказать) исторгнутой магме и пеплу слой за слоем растут и возвышаются. «А я и не знал...»

Как хорошо, что есть книги, заполняющие скорбные пробелы в образовании. Для невежд вроде меня, а также любопытных детишек существует серия «Как это устроено». Составители книг терпеливо докапываются до первопричин природных явлений, изучают самые мелкие винтики в механизме жизни и раскладывают по полочкам полученные бесценные знания. Один из выпусков серии посвящён нашей с вами планете.

Ведущую роль играют иллюстрации, причём играют парно. Сначала мы видим что-либо — планету, ландшафт, гору и т. д. — со стороны, а на следующем развороте этот же «объект» предстаёт перед нами «в разрезе». Так мы разбираемся со «слоями» Земли: ядро внутреннее и внешнее, мантия, литосферные плиты и т. д. Потом изучаем вулканы и пещеры. Естественно, составители не могли не упомянуть здесь итальянский город Помпеи, погребённый под вулканическими извержениями в 79 году. Не менее интересно детям будет узнать о причинах землетрясений и цунами, о которых так много и так страшно в своё время рассказывали «по телевизору». Потом мы спускаемся на дно океана, поднимаемся в облака, слой за слоем исследуем почву, а также прослеживаем круговорот воды в природе.

Вы и сами уже могли заметить, что главы в книге буквально повторяют школьную программу по географии, потому издание «Как это устроено: Земля» может стать неплохим дополнением к сухому и скучному (как считают сами дети) учебнику.

Особо отметим, что книга не просто даёт описание явлениям природы, но и называет вещи своими именами: так ребёнок постепенно привыкает к научной терминологии. Чтобы закрепить изученный материал, в конце подаётся словарь терминов.

# Ода транспорту

Владимир ГОРЫНЬ




С того момента, когда homo sapiens связал брёвна в самый первый на планете плот, весь род человеческий обречён был на великое действо под названием «путешествие». И неизменным слугой ему стал транспорт.

Думаю, велосипед — такой же друг человека, как и собака, и даже — да простит мне небо такое святотатство — управдом. Каждый день, каждое мгновение по дорогам разъезжают стремительные автомобили. В морях и океанах курсируют (а временами тонут, что поделаешь) лайнеры. А космические корабли по-прежнему бороздят просторы Вселенной. Именно благодаря нашим механическим друзьям кинофонд получил такой шедевр, как «Титаник», Остап Бендер добрался до подпольного миллионера Корейко, а Шумахер живёт безбедно и привольно. Да что мелочиться! Если бы в своё время Ной не построил ковчег, не написал бы я эти строки, а вы их не прочли бы.

И потому совершенно ясно, что любовь к транспорту нужно взращивать с младых ногтей. Но любовь без познания невозможна — это всем известно. На помощь нам приходит один из многочисленных выпусков серии «Как это устроено», посвящённый автомобилям, самолётам и кораблям. Сначала, как положено, нас вводят в курс дела и знакомят с краткой историей развития транспорта: начиная с первого полёта на воздушном шаре в 1783 году — и заканчивая путешествием на Луну экипажа «Аполлона-11» в 1969-м во главе с космонавтом Нилом Армстронгом. Затем мы постепенно разбираемся с сутью автомобилей, скоростных поездов, кораблей, авиалайнеров, вертолётов и космических челноков, особенно пристальное внимание уделяя двигателям.

Но самое интересное в книге, да и во всей серии, — это иллюстрации, не только познавательные, но и весёлые. Однако нужно быть внимательным: юмор кроется в мелких деталях. Могу дать подсказки: присмотритесь к содержимому катафалка (стр. 8), загляните в багажник легковушки (стр. 9), прочитайте надписи на футболках молодых людей (стр. 13). Остальное вы найдёте сами.

Мастак і кніга

# «Мяне вучылі не слухаць пісьменнікаў»


«Несцерка і чорт».

Не дзіўна, што кнігу казак Георгія Марчука «Добрае сэрца» праілюстраваў Віталь Дударэнка: пісьменнік і мастак знаёмыя больш як дзесяць гадоў. Гэта па-першае. Па-другое — спадар Віталь адзін з найбольш запатрабаваных у Беларусі ілюстратараў дзіцячых кніг. Вось ужо тры гады ён працуе ў часопісе «Вясёлка». На рахунку майстра — амаль 200 аформленых выданняў: беларускіх, расійскіх, амерыканскіх. Сярод іх ёсць работы і абсалютна не дзіцячыя. Прыкладам, праз сеціва Віталя Дударэнку адшукала амерыканскае выдавецтва, якое замовіла кнігу... пра генацыд на тэрыторыі Беларусі. Але дзіцячых работ усё ж болей. Як сказаў мастак, яго «абралі ў гэтым кірунку».

**Анастасія ГРЫШЧУК**

**— Як зразумець выраз «мяне абралі»?**

— Вельмі проста. Рэдактар, які атрымлівае ў выдавецтве матэрыял, думае, хто гэта можа аформіць. Зазвычай, калі гэта гістарычны твор, — тэлефануюць Паўлу Татарнікаву (былы аднакурснік Дударэнкі. — **А. Г.**), калі ж гэта дзіцячыя творы, дзе трэба выказаць нешта душэўнае, добрае альбо маляваць пейзажы, — мне. У іх сваё бачанне, якім я не кірую. Але часам адмаўляюся, калі тэма не падабаецца.


Ілюстрацыя да казкі «Ясельда».

**— Вы даўно супрацоўнічаеце з Георгіем Марчуком. З якімі яшчэ аўтарамі ахвотна працуеце?**

— Вельмі добры дзіцячы аўтар Валерый Кастручын, на жаль, малавядомы ў Беларусі. З ім мы зрабілі некалькі кніг. Паэт Віктар Ляскоўскі — пенсіянер, у яго нядаўна толькі першая кніжачка выйшла, але вершы такія цудоўныя!.. Больш сталыя — Уладзімір Саламаха, Алесь Карлюкевіч. А з Андрэем Федарэнкам мы пачыналі з кнігі «Тры талеры». Ведаеце, я вось стаў прыгадваць і зразумеў, што ў мяне процьма знаёмых пісьменнікаў. Цэлая армія! І з усімі — добрыя адносіны.

**— Але як атрымліваецца спалучаць такія тэмы: добрая дзіцячая казка — і вайна?**

— Я, на жаль, няправільна раблю, бо трэба болей увагі надаваць аднаму кірунку, але ў Акадэміі нас вучылі: мастак павінен умець рабіць усё. Калі нешта не ўмее, значыць, не прафесіянал.

**— Як выбудоўваецца працэс працы над ілюстрацыямі ў вас?**

— Чытаецца 3-4 разы тэкст, не меней. Канечне, можна і з першага разу нешта «злавіць», зачапіць ідэю. Як правіла, я заўжды раюся з аўтарам. Першыя кнігі, якія я афармляў на пачатку 1990-х, — Шамякін, Колас, Быкаў. З імі я, зразумела, не меў стасункаў. Чытаю тэксты ў цішыні, каб пранікнуцца, вельмі ўважліва; потым раблю эскізы на невялікім лістку паперы, ён паявлічваецца да фармату кнігі, затым раблю малюнак алоўкам і ўрэшце дадаю колер, калі ён патрэбны. У «дарослых» кнігах я вельмі люблю чорна-белыя малюнкі. А вось Георгій Марчук патрабуе, каб у яго казках колер ажно «звінеў».

**— Падчас працы здараліся канфлікты з пісьменнікамі?**

— Пакуль ні разу... Толькі-толькі здаў кнігу, аўтар якой прасіў рэалістычна намаляваць яго з жонкай — на вокладку. Я пагадзіўся. Хаця ад пачатку быў катэгарычна супраць: гэта ж не публіцыстыка, а мастацтва. Але той даводзіў, што твор мастацкі, але заснаваны на рэальных падзеях. Праўда, мяне рэдактары вучылі: ніколі не слухай пісьменніка, а заўжды рабі тое, што ты адчуваеш. Я, наадварот, з аўтарамі шмат раюся.

**— У вас ёсць любімыя героі ў кнізе «Добрае сэрца»?**

— Канечне! Несцерка і, як ні дзіўна, чэрці. Бо гэта персанажы, якіх ніхто ніколі нідзе не бачыў. І таму я меў права здзекавацца з іх так, як толькі хацеў. І, канечне ж, персанажы, звязаныя з прыродай. Так атрымалася, што ўсё маё жыццё прайшло на прыродзе.

**— Вы натхняліся работамі іншых мастакоў?**

— Самае страшнае для мяне пытанне, бо я такіх не ведаю, як мне ні сорамна. Усе мае сябры вучыліся ў адных і тых жа майстроў — найвялікшых нашых Савіча, Славука, Селешчука, Вішнеўскага, — але пайшлі рознымі шляхамі. І нельга сказаць, што нехта мяне натхняў. Магчыма, замежныя мастакі, якіх я бачыў у дзяцінстве?.. Ці дзіцячыя кніжкі, якія чытаў, калі быў малы?.. Як расказваў Павел Татарнікаў, у дзяцінстве ён шмат разглядваў ілюстрацыі ў кнігах, што прывозіў яму бацька, а потым маляваў іх на шпалерах. Але бацькі ніколі не сварыліся. Павел казаў, што ўсё гэта ўвабраў у сябе. Можа быць, са мной тое ж. Выкладчыкі ў свой час нас хвалілі, казалі: вось, вас шэсць чалавек — а мастакоў шмат і не бывае — і ўсе вы розныя. Уявіце, які быў бы жах, калі б усе мастакі былі аднолькавыя.

**— Якіх пісьменнікаў чытаеце і найбольш любіце?**

— Гофмана. А яшчэ вельмі люблю тых аўтараў, якія сустракаюцца мне ў жыцці дзякуючы маёй дачцэ. Нейкія кнігі яна абмяркоўвае ў сваім асяродку, потым яны трапляюць дадому. Пачалося ўсё з Гары Потэра. Я, мусіць, рэліктавы чалавек, які любіць чытаць усё. Але самы любімы — Гофман.


«Несцерка-кухар».

100 год кнізе

# Спаборніцтва з сабой

Уявіце сітуацыю: пасля надзвычайнага поспеху другой кнігі паэта вялізным накладам перавыдаецца яго дэбютны зборнік вершаў. Той, кім стаў творца, па сутнасці павінен спаборнічаць з сабой жа. Але са сваёй, так бы мовіць, «больш ранняй версіяй». Менавіта так адбылося з кнігай паэзіі Роберта Фроста A Boy's Will (Воля хлопчыка), якая пасля першай публікацыі ў 1913 годзе была зноў перавыдадзена ў 1915-м: законы рынку спрацавалі, бо другая кніга North of Boston (Поўнач Бостана) атрымала надта вялікую папулярнасць. Але Фрост не разгубіўся і працягваў пісаць.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Жыццёвая дарога Роберта Фроста не была лёгкай, складаным быў і яго шлях у вялікую літаратуру. Бацька паэта памёр ад туберкулёзу, калі Роберту было толькі 11 гадоў. Ён выхоўваўся ў доме дзеда, вучыўся ў Дартмудскім каледжы і Гарвардскім універсітэце, але не скончыў яго з-за хваробы. Перад смерцю дзед набыў для Роберта і яго жонкі Элінор невялікую ферму ў Нью-Хэмпшыры, дзе будучы знакаміты паэт працаваў цягам дзевяці год. Тут жа пісаў вершы. Звычайна зранку, пасля ўзыходу сонца. Напэўна, таму ўлюбёным лірычным героем Фроста ўжо пасля продажу фермы і пераезду ў Лондан стаў Нью-Хэмпшырскі фермер, які назірае за прыродай, адчувае сваё месца ў еднасці з наваколлем, па-філасофску асэнсоўвае з'явы жыцця.

Свой першы верш Роберт Фрост прадаў у 1894 годзе. Твор «Мой матылёк. Элегія» (My Butterfly. An Elegy) быў апублікаваны на старонках New York Independent, і аўтар атрымаў за яго 15 долараў (сёння 403 долары). Але потым фартуна нібыта адвярнулася ад паэта. Для яго вершаў не знаходзілася выдаўцоў у ЗША. У 1912 годзе сям'я Фроста пераязджае ў Лондан. І ўжо тут у 1913 годзе пры садзеянні надзвычай уплывовага аўтара таго часу Эзры Паўнда выйшла яго першая кніга A Boy's Will. Паўнд нават напісаў станоўчы водгук на яе, чым дапамог аўтару. Аднак праз некалькі год Фрост зноў вяртаецца ў ЗША, адмаўляе эстэтычныя погляды Паўнда (вядомага сваёй прыхільнасцю да еўрапейскіх прынцыпаў літаратурнай творчасці) і прапаноўвае тыповы амерыканскі шлях развіцця паэзіі: скіраванай на масы, пазбаўленай еўрапейскага ўмяшальніцтва.

Нягледзячы на тое, што Роберт Фрост стаў адным з самых вядомых прадстаўнікоў амерыканскага мадэрну, яго творчасць грунтуецца на моцным неарамантычным падмурку. Асноўная частка паэтычнай спадчыны абыгрывае тэму адносін чалавека з вечнай прыродай, якая ў Фроста, нягледзячы на ўсю блізкасць і еднасць лірычнага героя з наваколлем, прадстае перад чытачом неспасцігальнай і чужой чалавеку. Нярэдка ў з'явах прыроды схаваная страшная пагроза.

Высокія зоркі, навальніца, што набліжаецца, пажоўклая трава, кветкі на акне становяцца аб'ектамі сузірання для лірычнага героя. Таму не дзіўна, што ў кнізе A Boy's Will многім бачыцца ўплыў англійскага паэта-рамантыка першага пакалення Уільяма Вордсварта. Фрост, як і яго творчы настаўнік, праз сузіранне прыроды імкнуўся ўцячы ад рэчаіснасці: *«Я ўцёк у лес, і маю песню / Прагльнула лісце і панесла ўдалячынь»*.




Лірычны герой чуллівы і назіральны. Назіральны, бо бачыць дробныя дэталі ў агромністым і загадкавым свеце прыроды *«Дрэва каля сцяны ўжо голае, / Але адзінокі карычневы лісток, што яшчэ застаўся, / Патрывожаны, няма сумневу, маёй думкай, / Мякка падае з ціхім шолахам»*; чуллівы, бо ўмее стварыць цікавыя сюжэты кахання, якія грунтуюцца на антытэзе. Да прыкладу, каханне марознага зімовага ветру да кветкі, што расце на падаконні: *«Ён быў зімовым ветрам / Закапочаны марозам і снегам, / Мёртвымі зёлкамі і птушкамі, якія адбіліся ад статка, / Таму пра каханне мог ведаць зусім мала»*.


▲*Роберт Фрост у маладосці.*

◄ *Кніга A Boy's Will (Лондан: друкарня Дэвіда Ната, 1913).*

З аднаго боку, лірычны герой Роберта Фроста адзінокі, бо не адчувае сувязі з людзьмі (шмат глыбокіх філасофскіх разваг прысвечана гэтай тэме), з іншага ж, яго сябрамі становяцца тыповыя рамантычныя героі: італьянская багіня мудрасці Мінерва, бог-стваральнік Дэміург, гуллівы Пан з дудкамі ў руках, эльфы і феі. Нават можна заўважыць нейкую долю язычніцтва ў яго паэзіі, нездарма ж ён прамаўляе «Вясновую малітву» ўсёй прыродзе, умее чуць ціхія, амаль таемныя гукі. У вершах Фроста і «каса шэпчацца з зямлёй», і «лёгкае золата звініць у руках эльфа ці феі»... Магчыма, яны раскрываюць паэту нейкія таямніцы. Але гэтыя сакрэты, думаецца, вядомыя ўсім сялянам, чыё жыццё звязана з цяжкой працай на зямлі: *«Найсаладзейшы сон — пасля працы. / Прашаптала мне каса і пакінула шмат сена»*. Не чужая гэтая ісціна і для беларусаў, як па сутнасці не чужая нам і ўся паэзія Роберта Фроста.

# Градацыя страху

*Такая страшная, зіхоткая прыгажосць! Ён адвярнуўся і хацеў адысці, але па дзіўнай цікаўнасці, па дзіўным пярэчлівым пачуцці, якое не пакідае чалавека асабліва ў момант страху, ён не стрымаўся, сыходзячы, зірнуў на яе і пасля, адчуўшы тое ж хваляванне, зірнуў яшчэ раз.*

**М. Гогаль «Вій»**

**Паліна ПЛАТАВА**

На сцэне Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек адбыўся спектакль Алега Жугжды «Вій. Страшная помста» Гродзенскага абласнога тэатра лялек. Спектакль здзейснены ў межах Творчай лабараторыі тэатраў лялек.

За аснову сцэнічнай фантазіі на гогалеўскія тэмы рэжысёр узяў міргародскую аповесць Мікалая Гогаля «Вій» і апавяданне «Страшная помста» з «Вечароў на хутары каля Дзіканькі». На жаль, пастаноўку гэтых твораў сёння пабачыш нячаста. Таму і радуе ўдалы спектакль гродзенцаў. Гогаль, містычны і рэлігійны, жудасны ў сваіх фантазіях і святы ў сваім апяванні дабра, ажыў на беларускай сцэне.

Перад пачаткам спектакля Алег Жугжда зазначыў: «Нічога інтэлектуальнага не будзе. Спектакль зусім просты. Гэта страшная казка для дарослых. З добрым канцом. Ён туды напрасіўся, і я яго ўставіў». Прostасць, страх і... добры фінал. Такое спалучэнне і зрабіла дзею глыбокай і запамінальнай.

Атмасфера страху ахоплівае нас з самага пачатку. «Страшны міг прыйдзе ў ночку», — сумна напяваюць жанчыны Хаме Бруту, вобраз якога на сцэне ўвасабляе Аляксандр Рацько. Аж мурашкі па скуры прабягаюць. Але імгненне — і табе ўжо весела. Хама з сябрукамі смешна грымаснічаюць, падміргваюць дзяўчатам. Паказваюць батлейку, якая не выпадкова выканана ў форме царквы. Атрымліваецца своеасаблівы тэатр у тэатры. І зноў становіцца страшна. Батлейка, як і плач жанчын у самым пачатку, прадказвае сумны працяг. У ёй мы бачым герояў, якія потым з'явяцца і на сцэне: злога пана і яго дачку. Прыгожая паненка ў беласнежным адзенні, з такім жа беласнежным вяночкам у густых чорных валасах, здаецца, зусім не па добрай волі падпарадкоўваецца цёмным жаданням бацькі. Прыходзіць д'ябал. Зноў мароз па скуры.

Змрочныя праекцыі будучага дзеяння. Кантраст весялосці і страху. Рэжысёр удала грае на нервах гледачоў. Экспрэсія нарастае і нарастае, дзеянне паступова ператвараецца ў псіхалагічную бомбу, якая можа выбухнуць у любы момант.

Так і атрымліваецца. Хама, які ў шаленстве страху забіў паненку-ведзьму (тую, што ўжо з'яўлялася ў батлейцы), вымушаны правесці тры жудасныя ночы побач з яе целам. Жудасныя, бо паненка (Аляксандра Літвінёнак) часам устае са сваёй труны і спрабуе дастаць забойцу, усё паўтараючы і паўтараючы страшэнным голасам: «Навошта забіў?» Але яна не нейкі жахлівы ваўкалак — яна прыгажуня! Як прыгажосць можа спалучацца са злом? Гэта магічнае яднанне анёла і дэмана страшыць як Хаму, так і гледачоў.

З кожнай ноччу становіцца ўсё страшней. Паказаць градацыю страху без празмернасці няпроста. Заўсёды ёсць рызыка перайсці мяжу. Напрыклад, з дэкарацыямі. Але ж не. На сцэне ўсё гарманічна, нічога лішняга. Кожны прадмет сэнсава патрэбны. Свечка ў дрыготкіх руках Хамы — трапятанне надзеі. Круг у цэнтры сцэны — яго шчыт, апора. Нават лятаючая труна не выглядае ненатуральна. Яна толькі дапаўняе атмасферу жаху. Не перабралі і з музыкай. Яна страшная, калі страшна Хаме. Вясёлая, калі ён балакае з казакамі. Яна — яго настрой.

Аднак галоўныя ў спектаклі, зразумела, акцёры. Вясёлыя казакі Дораш (Аляксандр Енджэеўскі) і Спірыд (Валерый Карышаў) прымушаюць нас усміхацца, тым самым здымаючы залішняе напружанне. Іх бесклапотнасць супрацьпастаўлена хістанням Хамы. Ён на мяжы вар'яцтва, у нейкім іншым, зразумелым толькі яму свеце душэўнага хаосу. Яны — у свеце бытавым, рэальным. Рэжысёр ізноў звяртаецца да кантрастаў.

Выявіць унутраны стан Хамы атрымліваецца ў тым ліку дзякуючы ігры Аляксандра Рацько, які здолеў перадаць развіццё галоўнага героя. Юнацкая бестурботнасць, гарэзлівасць. Затым — страх, які перакульвае дагары нагамі дагэтуль спакойнае жыццё. Вар'яцтва, выкліканае гэтым страхам. І, у рэшце рэшт, яго пераадоленне, якое вядзе да душэўнага спакою. У другім акце Аляксандр выходзіць на сцэну басанож. Гэтая нязначная дэталь надае спектаклю асаблівую пачуццёвасць. Герой цалкам раскрываецца перад намі. У канцы пастаноўкі ён застаецца ўжо і без свайго чорнага плашча — увесь белы.

Як і абяцаў рэжысёр, канец добры: Хама пераадольвае свой страх і вызваляе душу паненкі, якой даруецца нарэшце ўнутранае харавство. А што ж збавіцель Хама? Ён таксама атрымлівае харавство. Душэўнае. У гэтым філасофія Гогаля: чалавек ачышчаецца праз пакуты.

# Паўстанне ў Нацыянальным гістарычным

**Алеся АРЫЦКАЯ**

Атрады добраахвотнікаў, што шыбуюць па вулачках мястэчкаў з беларускімі назвамі, арганізацыя гуманітарнай дапамогі, атака цягніка паўстанцамі — толькі некаторыя з сюжэтаў гравюр французскага часопіса «Le Monde illustre», якія з'яўляюцца часткай прадстаўленай у Нацыянальным гістарычным музеі ўнікальнай выстаўкі «Паўстанне 1863 — 1864 гг.». Таксама ў экспазіцыю, прымеркаваную да 150-годдзя знакамітай падзеі, уваходзяць кнігі, дакументы і іншыя помнікі XIX ст. Выстаўка арганізавана Нацыянальным гістарычным музеем на падставе прыватнай калекцыі пры ўдзеле Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі і Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Паказ экспазіцыі плануецца і ў іншых рэгіёнах Беларусі.

— Галоўная мэта — узгадаць вялікія падзеі, якія мелі месца на тэрыторыі Беларусі і ў якіх беларускі народ браў удзел, — зазначыў дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Алег Рыжкоў. — Паўстанне 1863 — 1864 гг. выклікае шмат спрэчных пытанняў, але дзякуючы выстаўцы кожны наведвальнік мае магчымасць даць гэтаму факту самастойную адзнаку.

Прадстаўленыя экспанаты сапраўды ўнікальныя. Напрыклад, гравюры французскага часопіса «Le Monde illustre», якія на працягу пяці год збіраліся прыватным калекцыянерам па ўсёй Еўропе, па якасці падачы матэрыялу не саступаюць гравюрам Х. В. фон Фабера дзю Фора, відавочцы падзей вайны 1812 года (яны былі прадстаўлены напрыканцы мінулай восені Нацыянальным мастацкім музеем). У XIX ст. мастак, які валодаў майстэрствам стварэння гравюр, выконваў ролю рэпарцёра. Нярэдка ілюстрацыі да паведамленняў хронік былі больш інфарматыўнымі, чым самі артыкулы. Асноўныя сюжэты гравюр — батальныя сцэны, побыт салдат, жыццё ў эміграцыі — прадстаўлены на фоне польскіх, літоўскіх, расійскіх і беларускіх краявідаў, нярэдка сустракаюцца назвы такіх беларускіх гарадоў і мястэчак, як Мінск, Гродна, Навагрудак і інш. Улічваючы, што ледзь не адзіная арыгінальная выява часоў паўстання — партрэт К. Каліноўскага, дадзеныя гравюры з'яўляюцца важкай крыніцай інфармацыі для навукоўцаў.



*Атрад добраахвотнікаў пакідае Гродна, каб злучыцца з арміяй паўстанцаў. Часопіс «Le Monde illustre», Парыж.*

Таксама на выстаўцы прадстаўлены друкаваныя выданні і рукапісныя дакументы: апублікаваныя ўспаміны сучаснікаў падзей, творы грамадска-палітычных дзеячаў, гістарычныя даследаванні, узоры фалерыстыкі і сфрагістыкі.

— У дакументах нашага архіва выяўлена многа арыгінальных рукапісаў часоў паўстання, — зазначыла дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка. — Перш за ўсё, гэта фонд беларускага пісьменніка, мастака і грамадскага дзеяча К. Каганца. Як вядома, яго сям'я спрычынілася да паўстання самым актыўным чынам, з тых трагічных часоў і засталіся дакументы, перададзеныя з Масквы на пачатку 90-х гг. у наш архіў дачкой пісьменніка Г. Пуцятай. Таксама ў архіве знаходзяцца «развітальныя» аўтографы паўстанцаў, якія былі арыштаваны на тэрыторыі Мінскай губерніі і чакалі прысуду ў сутарэннях мінскага кляштара бернардзінцаў, летапіс Дукорскай царквы, старонкі якога прысвечаныя падзеям паўстання, урывак з паэмы А. Міцкевіча «Дзяды», які ў тыя часы стаў народнай песняй, творы, запісаныя ў пазнейшы перыяд.



*Паўстанцы атакуюць цягнік на станцыі Чыжэва. Часопіс «Le Monde illustre», Парыж.*

У сваю чаргу, дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Адамушка скарыстаўся момантам і падчас адкрыцця выстаўкі запрасіў гісторыкаў да распрацоўкі тэмы паўстання, бо на сённяшні дзень нацыянальныя гістарычныя архівы ў Мінску і Гродне, а таксама архіўмузей літаратуры і мастацтва, захоўваюць шматлікія дакументы, якія знаходзяцца ў адкрытым доступе. «Думаю, дадзеная выстаўка актывізуе гісторыкаў да даследаванняў падзей паўстання», — зазначыў У. Адамушка.

## Арт-карагод

**Дзіяна КАРОЛЬ, Наталля ЧАРКЕС, Лілія ЯФРЭМАВА**

Мастацкая галерэя Беларускага саюза мастакоў да 16 красавіка запрашае на выстаўку «Габелены Людмілы Пятруль». Мастачка з'яўляецца аўтарам больш як сотні разнастайных па тэматыцы і асаблівасцях выканання твораў, яе габелены ўражваюць шырокім дыяпазонам творчых задач і вобразных адкрыццяў — ад класікі да авангарда. Сярод найбольш яркіх твораў — «Сказ пра бульбу», «Ніцая вярба», «У зачараваным царстве» і інш. Выстаўка «Габелены Людмілы Пятруль» з'яўляецца адначасова творчай справаздачай і вызначэннем новых задач і ўласных магчымасцей.

Зоркі оперы — 2 красавіка ў спектаклі Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі «Сівая легенда». Партыю Ірыны выканае заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь, запрошаная салістка Вялікага тэатра Расіі А. Масквіна. У ролі Любкі — заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь, салістка Вялікага тэатра Расіі, запрошаная салістка Латвійскай нацыянальнай оперы, спявачка, якая пакарыла сцэну знакамітага нью-ёркскага тэатра «Метраполітэн-опера», А. Волкава. У галоўных мужчынскіх партыях выступяць самыя тытулаваныя спевакі Вялікага тэатра Беларусі — народныя артысты У. Пятроў (Кізігайла) і С. Франкоўскі (Раман).

Да Міжнароднага дня роднай мовы Прадстаўніцтва ААН у Беларусі арганізавала фотаконкурс «Беларуская мова — адлюстраванне нашых думак і пачуццяў». Конкурсныя работы былі прадстаўлены ў сацыяльных сетках на працягу тыдня, дзе і праходзіла галасаванне. Пераможцамі сталі пяць работ. Іх аўтары — Ігар Случак, Уладзімір Лемеш, Марына Бегункова, Ігар Нікалаенка і Дар'я Чаркес.

Майстар вышыўкі Святлана Бацунова да 7 красавіка запрашае на персанальную выстаўку ў Музей гісторыі горада Гомеля. Удзельніца і лаўрэат шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных выставак і конкурсаў, мастачка вышывае крыжыкам, габеленавым швом і гладдзю, прымяняе шыццё бісерам. Займаецца не толькі вышыўкай, але і іншымі відамі прыкладнога мастацтва: макрамэ, абрэзкавым шыццём (пэчворкам) і г. д. У гэтым годзе аўтар прадставіла гледачам магчымасць атрымаць асалоду ад сузірання лялек ручной работы. Тэматыка прадстаўленых на выстаўцы вышывак — карціны Рафаэля Санці, Сурыкава і іншых вядомых мастакоў.

Канцэрт вядучых музыкантаў Беларусі, спевака Пятра Белюсева і піяністкі Любові Гудзь, прайшоў у клубе «Энергія творчасці», створаным па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам паэтэсы, краязнаўцы і фотамастака Ліліі Забаўленкі пры культурна-гістарычным комплексе «Залатое кальцо горада Віцебска «Дзвіна». Слухачам былі прапанаваны больш як два дзясяткі вакальных і музычных твораў, амаль столькі ж паэтычных рэмарак: народныя песні, рамансы, танга, іншыя класічныя творы. Творы з аперэт, музычных камедый, вядомых кінафільмаў узнялі настрой прысутным. Адным з вядучых канцэрта быў паэт Барыс Беляжэнка, які, да таго ж, чытаў свае гумарэскі. Актыўны ўдзел у вечарыне таксама ўзялі прадстаўнікі аматарскіх клубаў «Сяброўства», «Залаты ўзрост», тэрытарыяльнага цэнтра садзейнічання інвалідам Чыгуначнага раёна.





# Для самых маленькіх



Уладзімір Ліпскі, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка», прэзентуе новы часопіс «Буся» для тых, хто пакуль яшчэ слухачы, а не чытачы.

**— Уладзімір Сцяпанавіч, якія задачы ставіць перад сабою новае выданне?**

— Задачы ў нас вельмі просценькія. Першая — упусціць у душу дзетак напеўную беларускую мову. Як можна без гэтага выхаваць беларуса, грамадзяніна? Ніяк! Другая задача — каб дзеці палюбілі гэту зямельку і разам з ёй — традыцыі, культуру, мудрасць яе людзей. І трэцяя задача — каб навучыліся паважаць тых, хто робіць для іх нешта, хто вядзе іх за руку па жыцці. Задачы простыя і вечныя. Калі гэта будзе — будзе Беларусь. Нам стала цеснавата ў адным выданні, хоць і патаўсцела «Вясёлка» за мінулыя гады.

**— Да таго ж, напэўна, больш выразна акрэслілася мяжа паміж узроставымі катэгорыямі дашкольнікаў і малодшых школьнікаў?**

— Так. Маленькім дзецям трэба «на пальцах» расказваць пра свет. А малодшым школьнікам нават і пра каханне, пра гісторыю, праблемы нейкія можна распавесці. Гэта патрабаванне часу — значыць, наш абавязак.

**— Дарэчы, мы з маленькім сынам вашы перспектыўныя чытачы — нам чатыры гады.**

— Такіх дзяцей у рэспубліцы 387 тысяч — я маю на ўвазе дашкольнікаў. Ніша гэта пакуль не запоўненая.

Пакуль што плануем выходзіць раз у два месяцы. Час складаны ў эканамічным плане, але добрая ініцыятыва заўсёды знойдзе аднадумцаў, якія дапамогуць. Так, дзякуючы падтрымцы Надзеі Ермаковай, старшыні Грамадскага савета жанчын, мы выпусцілі пілотны нумар часопіса. Цяпер спадзяёмся на падтрымку бацькоў, выхавацеляў дзіцячых садкоў: хацелі б не навязваць свой фармат, але ствараць яго менавіта па прапановах. Звяртаемся і да вас: няхай чытачы «ЛіМа» таксама выкажуцца, якім чынам нам лепш рабіць часопіс для нашых «бусянят».

**— Назва часопіса прывабная і кранальная. Як яна з'явілася?**

— Многа было папярэдніх назваў: «Сунічка», «Пакацігарошак», «Каласавічок»... «Буся» — мая прапанова У гэтай назве — і маленькі буслік, і дзіцёнак-«буська», і пяшчота пацалунка... Цяпер працуем




уласна над вобразам Бусі — пэўна, ён будзе сімбіёзным. Выдатна было б увасобіць яго ў выглядзе цацкі, якая была б шырока распаўсюджаная.

**— ...І ўяўляла сабой альтэрнатыву «заходнім» персанажам! Уладзімір Сцяпанавіч, ваш першы «Буся» ўражвае якасцю малюнкаў, разнастайнасцю чытання для самых маленькіх, вельмі прыгожымі і арыгінальнымі маляванкамі.**

— Пілотным нумарам мы паказваем, што ў нас ёсць жаданне, ёсць сілы і магчымасці працаваць з гэтай катэгорыяй дзяцей. А што да маляванкі, то «Буся», як і «Вясёлка», будзе тэматычным часопісам. Маляванне — адна з мноства магчымых «тэм». Адносна іх мы і чакаем прапаноў.

Пакуль галоўнае — «увязацца» ў гэтую справу — за нашу мову, за нашу культуру. Якімі мы іх, нашых дзяцей, выхаваем, такі будзе наш заўтрашні дзень.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Застацца краінай, якая чытае

Сучасная бібліятэка. Якая яна? Наколькі запатрабаваныя яе паслугі сёння, калі амаль любую кнігу можна знайсці і прачытаць у інтэрнэце? Калі ёй на змену прыйшоў такі зручны электронны аналаг, у якім можна змясціць дзясяткі, нават сотні розных кніг. Як жа звычайнай бібліятэцы захаваць чытача? Чым зацікавіць? І асабліва — дзяцей?

**Злата КРАСАВІЦКАЯ,**
**фота аўтара**

Дзіцячыя бібліятэкі падыходзяць да сваёй працы творча, прапаноўваючы дзецям шмат цікавага. Пераканацца ў гэтым можна, наведаўшы любую з іх. Напрыклад, нядаўна я зазірнула ў сталічную дзіцячую бібліятэку № 14. Першае, што адзначыла, — шмат юных наведвальнікаў. І хоць я даўно выйшла з дзіцячага ўзросту, з цікавасцю праходжу, разглядаю кніжныя выстаўкі, прыглядаю, што можна прапанаваць васьмігадоваму сыну.

А выбраць ёсць з чаго. Кожны чытач абавязкова знойдзе кнігі па сваім гусце. Але бібліятэка гэта дзіцячая, а значыць, у супрацоўнікаў важная місія не толькі пазнаёміць дзяцей з кнігай, але і дапамагчы маленькім чытачам сфарміраваць добры мастацкі густ. Трэба зацікавіць творамі, якія раскажуць пра чалавечыя каштоўнасці, навучаць быць спагадлівымі, шчырымі, добрымі, заклічуць паразважаць і падвесці пэўныя вынікі, падкажуць, як паводзіць сябе ў некаторых жыццёвых сітуацыях.

Пра асобныя праекты бібліятэкі варта расказаць падрабязна. Па-першае, увагу юных чытачоў прывабліваюць розныя выстаўкі. Напрыклад, палічкі «Лес цудаў», на якіх сабраныя кнігі пра лес. Прыемна адзначыць, што цэнтральнае месца займаюць беларускамоўныя выданні айчынных аўтараў: «Гісторыі былога лесу» Галіны Пшонік, «Лес на далоні» Хведара Гурыновіча, «Падарожжы ў Чароўны лес» Кацярыны Хадасевіч-Лісавой. Але не проста кнігі прадстаўлены чытачам, запрашаюць падысці да стэнда мядзведзь і сава, зробленыя з шышак, сапраўдны казачны настрой стварае маленькая хатка Лесавічка, якую вартуе Баба Яга. Нядзіўна, што кнігі пра лес карыстаюцца попытам у юных чытачоў.

Ёсць у бібліятэцы інтэрактыўная «Цукерачна-яблычная паліца». Чаму цукерачна-яблычная? Ды вельмі проста. За правільныя адказы «Паліцы» чытачы зімой атрымліваюць цукерку, а летам — яблык. Тэмы мяняюцца часта. Напрыклад, аднойчы яна была прысвечана Уладзіміру Ліпскаму, пасля — народным святам і звычкам беларусаў. Цяпер назва яе — «Чытаем па-беларуску». І зразумела, там прадстаўлены кнігі дзіцячых беларускіх пісьменнікаў. А побач з кнігамі сядзяць іх героі! Супрацоўнікі бібліятэкі яшчэ і выдатныя майстрыхі, якія ўласнымі рукамі зрабілі персанажаў казак. На паліцы можна пабачыць сімпатычнага Лесавічка, які жыве ў шматлікіх творах, віруса Шкодзю з казкі Анатоля Бутэвіча, бабу Юстыну, прыдуманую




Бібліявусень.



Яблычна-цукерачная паліца «Чытаем па-беларуску!».

Людмілай Рублеўскай, вясёлага Нуліка, які, здаецца, толькі што ажыў і саскочыў са старонкі кнігі Уладзіміра Ліпскага.

Каб падтрымаць цікавасць дзяцей да свайго, роднага, бібліятэкары прыдумалі яшчэ адну цікавую акцыю, якую распачалі яшчэ пазамінулым летам. У вялікі чамадан пaскладвалі кнігі. Зрабілі галаву вусеня, якога прадставілі дзецям як Бібліявусеня, і запрасілі малых да ўдзелу ў конкурсе чытання. Паводле ўмоў трэба было выбраць з чамадана любую кнігу і прачытаць яе. Гэта давала магчымасць самастойна ці з дапамогай бібліятэкараў давязаць на прутках адну палоску цела вусеня. За лета Бібліявусень «вырас» да вялікіх памераў і атрымаўся вельмі прыгожым. Напрыканцы было наладжана сапраўднае свята, на якое Бібліявусень запрасіў усіх, хто дапамагаў яму «расці». І самае неверагоднае і прыцягальнае для дзяцей было тое, што доўжылася свята з 18 гадзін да апоўначы. Пра «Ноч у бібліятэцы» чытачы памятаюць да сённяшняга часу і спадзяюцца, што яна паўторыцца: з таямнічай экскурсіяй у цёмных сховішчы, квест-арыентаваннем, аўкцыёнам. Завіталі на тое свята і прывіды, сярод якіх былі дзве асобы беларускага паходжання: Чорная панна Нясвіжа і Белая панна Уладзіміра Караткевіча.

Акцыя вельмі спадабалася дзецям, таму мінулым летам яна атрымала працяг. Як вядома, з вусеня ў свой час вырастае матылёк... Таму летась юныя наведвальнікі бібліятэкі актыўна чыталі кнігі і стваралі матылька.

Дзеці заўсёды задаюць шмат пытанняў, і сярод іх ёсць тыя, агучыць якія няпроста, таму ў бібліятэкараў з'явілася ідэя адкрыць «Дзіцячае даведачнае бюро». Кожны можа напісаць сваё пытанне на аркушы паперы і апусціць яго ў спецыяльную скрыню. Супрацоўнікі бібліятэкі абавязкова напішуць на адваротным баку адказ або параяць прачытаць кнігу, якая яго падкажа. Пра што толькі не пытаюцца дзеці! Ад простых пытанняў кшталту «Калі на паліцах з'явіцца пэўная кніга?» да, напрыклад, такога: «Калі нарэшце бацькі падораць мне сястрычку? Два гады чакаю!» ці «Што рабіць? Мой тата п'е!»

Загадчыца бібліятэкі Людміла Гідлеўская расказала, што частымі гасцямі ў іх бываюць пісьменнікі, асабліва — маладыя. Нядаўна на сустрэчу з дзецьмі запрашалі Вольгу Нікольскую, якая распявяла пра герояў сваёй кнігі «Мы — агенты "Калбафір"...» Адбылася па-сапраўднаму незвычайная сустрэча малодшых школьнікаў з Кацярынай Хадасевіч-Лісавой, якаяператварылася ў фею і запрасіла дзяцей у казачнае падарожжа па кнізе «Касмічная адысея хлопчыка Стасіка». Пры гэтым, трэба зазначыць, дзеці самі выбіралі, з аўтарамі якіх кніг ім хочацца сустрэцца.

Цікава аформлена і фае бібліятэкі: тут на сцяне зроблена імітацыя двух вялікіх вокнаў, на адным з якіх сядзіць задаволены руды кот. Унізе знаходзіцца зялёны плот і брамка з надпісам «СЯМ'ЯЯЯЯЯ». Пасярэдзіне на бялізнавых вяроўках каляровымі прышчэпкамі прымацаваныя яркія аркушы паперы, на кожным з якіх змешчаны цудоўны выраз пра дзяцей, пра чытанне, пра выхаванне. Ёсць што пачытаць і пра што паразважаць і бацькам, і дзецям.

Побач — стэнды з фотаздымкамі, якія прадстаўляюць своеасаблівую справаздачу з мерапрыемстваў, што адбываліся ў бібліятэцы апошнім часам. Напрыклад, у бібліятэцы бываюць каляровыя дні: Блакітны дзень, памяранцавы, чырвоны і г. д. Быў і «Дзень без інтэрнэту», калі дзецям нагадвалі, як цікава можна бавіць час, нават забыўшыся на сусветнае сеціва. А якім незабыўным для вялікіх і маленькіх наведвальнікаў стаў «Дзень чаю», які адзначаецца зімой! Кожны, хто ўвайшоў у бібліятэку, мог прысесці за столік і разам з героямі кнігі Л. Кэрала «Аліса ў Краіне цудаў» выпіць кубак гарбаты з прысмакамі.

Супрацоўнікі чатырнаццатай дзіцячай бібліятэкі і яе чытачы імкнуцца прыцягнуць увагу тых, хто пакуль яшчэ не ўваходзіць у лік пастаянных наведвальнікаў кніжніцы. Для гэтага была праведзена акцыя «Як прайсці ў бібліятэку?» Актывісты з ліку чытачоў і самі бібліятэкары проста падыходзілі да людзей і задавалі гэтае крылатае пытанне. Тых, хто ведаў адказ, запрашалі бываць там часцей, а тым, хто не мог адказаць, выдавалі карту-запрашэнне, дзе пазначана бібліятэка. Быў арганізаваны нават флэшмоб «Хвілінка для чытання». Дзеці з кнігамі і каляровымі паветранымі шарамі ішлі па вуліцы горада, а потым раптам садзіліся і пачыналі чытаць — зразумела, гэта прыцягвала ўвагу іншых.

Далучаемся да супрацоўнікаў бібліятэкі і нагадваем усім, як важна, цікава, захапляльна чытаць кнігі. Заходзьце ў бібліятэку часцей і не забывайцеся запрасіць сяброў!

# Месца сустрэчы — вёска Арэхава

Для нас, беларусаў, Мікіта Талстой (вядомы расійскі мовазнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік АН СССР, член Аўстрыйскай ды Македонскай акадэмій), з дня нараджэння якога 15 красавіка спаўняецца 90 гадоў, цікавы перш за ўсё тым, што шмат увагі ўдзяліў вывучэнню гаворак і традыцыйнай духоўнай культуры Палесся. Узначальваў не адну экспедыцыю ў Брэсцкую вобласць, дзе адкрыў багатыя моўныя «залежы». Пра адну такую сустрэчу, якая адбылася паўвека таму ў Маларыцкім раёне, мой аповед.



Талстой Мікіта Ільіч (1923—1994) у 1962—1965, 1974—1981 гадах узначальваў экспедыцыі па вывучэнні гаворак і традыцыйнай духоўнай культуры Беларускага Палесся.

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

...Ліпень 1963 года. Паспяхова здадзеныя экзамены за другі курс філфака. У Брэсцкім педінстытуце нас загітавалі ехаць у экспедыцыю, збіраць народныя гаворкі для дыялектнага слоўніка Берасцейшчыны. Гэта з аднаго боку. А з другога — на аснове сабранага нам можна будзе напісаць курсавыя работы па мове.

Угаворваць давялося нядоўга, і вось завяршаецца ўжо другі тыдзень, як група з пяці чалавек — чатыры дзяўчыны і я — разам з выкладчыкам Аляксандрам Сцяпанавічам Барысаўцом у вёсцы Арэхава збірае мясцовыя гаворкі.

Работа ўрэшце скончана. Яшчэ раз праглядваю запісанае, збіраю рэчы: заўтра раніцай ад'язджаем. Нечакана ў дзверы моцна пастукалі. Думаю, нехта з дзяўчат, запрашаю:

— Калі ласка, заходзьце!

Прыгінаючыся ў нізкіх дзвярах, у праёме з'явілася мажная фігура мужчыны сярэдніх гадоў, з рыжай барадою, у паходнай форме і гумовых ботах. Ён зрабіў некалькі крокаў наперад, адрэкамендаваўся:

— Талстой.

Так, гэта быў Мікіта Ільіч Талстой — праўнук Льва Мікалаевіча.

— Мы прыехалі сюды яшчэ заўчора, — сказаў Мікіта Ільіч. — Ад мясцовых жыхароў даведаліся, што ў Арэхаве збіраюць дыялекты студэнты з Брэста, і вырашылі не замінаць вам. Паставілі на Арэхаўскім возеры палатку, ловім рыбу, купаемся, загараем, варым юшку...

— Мы не ловім, — уставіў слова я, — а купляем у калгасных рыбакоў. Танна — па сорак капеек за кілаграм.

— Думаю, што і нас не заўжды вуда выручыць, будзем і мы браць у рыбакоў, — і дадаў: — Мы ведаем, што вы ад'язджаеце, і прыйшлі пазнаёміцца з калегамі.

Ён так і сказаў — «з калегамі», хоць мы ўсяго толькі студэнты, а яны — выкладчыкі Інстытута славяназнаўства Акадэміі навук СССР. Але было прыемна хоць на хвілінку адчуць сябе калегам Мікіты Ільіча.

Мы выйшлі на вуліцу. Ля свайго пакоя дзяўчаты нешта дружна абмяркоўвалі. Да нашых дадаліся яшчэ дзве каляжанкі Талстога — Святлана і Тамара.

— Што, думаем, як лепей падрыхтаваць абед? — усміхнуўся Мікіта Ільіч і тут жа распарадзіўся: — Мы, хлопцы, ідзём у магазін атаварвацца, а вам, дзяўчаты, — накрываць на стол!

У той час нават у вясковай краме можна было купіць добрае віно, і Мікіта Ільіч выбраў яго на свой густ. Купілі некалькі кансерваў, а з хлебам атрымалася замінка.

— Мне яшчэ бохан хлеба, — папрасіў Талстой.

— Няма хлеба, — развяла рукамі прадавец. — Разабралі, заўтра прывязуць.

— А гэты? — і Мікіта Ільіч паказаў на адзіны бохан на паліцы.

— Гэты пагрызла мыш, — пачырванела прадавец і павярнула пагрызеным бокам.

— Што, мышы могуць есці, а людзі — не?! — усміхнуўся Талстой і махнуў рукою. — Бяром!

Пакуль мы хадзілі ў магазін, дзяўчаты раздабылі бульбачкі, пачысцілі і паставілі варыцца. Засмажылі апошняе сала з цыбуляй, што пакідалі на вячэру, а таксама два ці тры шчупачкі, якія засталіся ад снедання, каб атрымаўся шыкоўны абед.

З першых хвілін Мікіта Ільіч мне здаўся тым «жыўчыкам», унутры якога ўсё аж кіпела, рухалася, патрабавала вырашэння. Вось ён падышоў да дзяўчат, якія збіраліся адкрываць кансервы, узяў з рук нож:

— Шкада будзе, як паражаце свае далікатныя пальчыкі! — і ўзяўся адкрываць сам.

Вось ён паставіў стравы на стале, каб яны стаялі кампактней.

Распачалася гаворка. Нечакана Талстой пачаў чытаць па-ўкраінску Шаўчэнкава «Реве та стогне Дніпр широкий». Перайшоў да іншых аўтараў, чытаў у арыгінале балгарскіх, сербскіх, польскіх паэтаў і скончыў па-стараславянску «Словам пра паход Ігаравы». Самы пачатак — «Не лепо ли ны бяшет...», літаральна некалькі радкоў — мы вучылі ў школе на памяць, а цяпер Мікіта Ільіч дэкламаваў не спыняючыся, усё бліжэй падыходзячы да сярэдзіны твора.

Мы сядзелі моўчкі, знерухомеўшы, з асалодай. Нечакана Талстой перапыніў чытанне і працытаваў словы Гётэ:

— Колькі ведаеш моў, столькі разоў можаш лічыць сябе чалавекам! Для нас бліжэй славянскія мовы, вось мы і стараемся іх вывучаць, — і адразу спытаў, ці валодаем мы якім-небудзь мясцовым дыялектам.

Кожны з нас выйшаў з вёскі і цяпер імкнуўся як мага хутчэй выкрасліць са свайго лексікону мясцовыя словы. Таму трохі сумеліся пытанню. Самай бойкай аказалася Алена Пакала — яна і адказала вучонаму:

— Дзякуючы маці і бабулі я свабодна валодаю дыялектам Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці.

— Зараз паглядзім!.. — усміхнуўся Талстой.

Мы сталі сведкамі слоўнай гульні. Мікіта Ільіч прапаноўваў рускае слова і атрымліваў дыялектны варыянт, другое слова — ізноў адказ... Гульцы перакінуліся дзясяткам, а можа, і болей слоў, як вучоны спытаў у захапленні:

— Ці разумееце вы, якім багаццем валодаеце?

Лена паціснула плячыма:

— Гэта говар людзей, сярод якіх я жыла да інстытута...

Мікіта Ільіч стаў тлумачыць, што гэты драгічынскі дыялект — не што іншае, як астанкі жывой мовы ўсходніх славян, з якой пасля дзякуючы розным гістарычным абставінам выйшлі беларуская, руская і ўкраінская мовы. Людзі захавалі гаворку і, напэўна, свае звычаі...

Мы расказалі гасцям, як цікава было збіраць мясцовую гаворку, якая розніцца з літаратурнай мовай, як людзі дапамагалі нам. Святлана з Тамарай здзіўляліся, што мы паехалі збіраць дыялекты па ўласным жаданні: іх накіравалі загадам.

Я пацікавіўся ў Мікіты Ільіча, ці захаваліся ў іх талстоўскім родзе якія традыцыі, звязаныя з памяццю пра Льва Мікалаевіча.

— Ёсць, — адказаў той. — У многіх з нас цяга да слова, да філалогіі. Леў Мікалаевіч — як бы пачынальнік нашага роду. Хаця ведаем і пра ягоных бацькоў-дзядоў, але варта назваць Талстым, як адразу паўстае велічная фігура Льва Мікалаевіча. І яшчэ адно: калі ў хлопчыка пачыналі расці вусы і барада, іх расцілі да талстоўскіх памераў. Як у мяне, — і з усмешкай правёў далонню па барадзе.

Засядзеліся, загаварыліся, а сонца схілілася да захаду. Госці сталі развітвацца. Яны папрасілі адзначыць у педінстытуце іх камандзіровачныя пасведчанні. Аказалася, што Света ды Тома, з якімі ўсе даўно былі на «ты», з'яўляліся старшымі навуковымі супрацоўнікамі інстытута, а кіраўнік экспедыцыі Мікіта Талстой — малодшы навуковы супрацоўнік.

Адзначыла камандзіроўкі і выслала ў Маскву Алена Пакала. Неўзабаве яна атрымала паштоўку ад Талстога. Ён падзякаваў за клопаты і запрасіў Алену разам з масквічамі паўдзельнічаць у наступных экспедыцыях на Палессе, а пасля можна будзе і падумаць пра яе перавод на вучобу ў Маскоўскі інстытут славяназнаўства, дзе ў той час працаваў Мікіта Ільіч. Для таго патрэбен быў дазвол з Мінска, і выкладчыкі нашага інстытута параілі дзяўчыне не ўвязвацца ў гэту справу, а лепей больш часу аддаваць вучобе.

Не ўсе, хто быў у экспедыцыі, узялі сабе тэмы курсавых прац, абапіраючыся на сабраны мясцовы дыялект. Можа, толькі мы з Пакалай. Алена пісала пра марфемны лад гаворкі, а я выбраў тэму «Назоўнік».

Дыялект аказаўся надта цікавы, не падобны да гаворак іншых паселішчаў. Напрыклад, слова «дзверы» ў суседніх вёсках прамаўлялі «двэры», а тут — «двары». Хаця націск падаў на першы склад. Я доўга біўся, пакуль прыйшоў да высновы, што ў назоўніку выдзяляюцца не тры, як у літаратурнай мове, а два скланенні, часта ўжываецца клічны склон і г. д.

Тады мне прыпомніўся аповед Талстога: легенда ці прачытанае дзе? Мо з паўтысячы гадоў таму адно племя славянаў пакінула Балканскі паўвостраў і пайшло на ўсход. Выбралі бераг Арэхаўскага возера, тут і пасяліліся, прынёсшы з сабой гаворку, абрады...

Нашы курсавыя работы былі прызнаныя неблагімі. Мы абараніліся на «выдатна». Камісія адабрала іх на конкурс студэнцкіх работ у Мінск, дзе ім была прысвоена трэцяя ступень.

Палессе шмат дало і Талстому. За бліжэйшае дзесяцігоддзе ён абараніў доктарскую дысертацыю, стаў прафесарам. Выйшлі два зборнікі артыкулаў «Лексіка Палесся: Матэрыялы для палескага дыялектнага слоўніка» і «Палессе: (Лінгвістыка. Археалогія. Тапаніміка)». Рэдактарам і суаўтарам абедзвюх кніг быў Мікіта Ільіч.

Нядаўна пазваніла з Драгічына Алена Пакала, якая цяпер носіць прозвішча Аляксеева. Успамінаючы, Алена Дзмітрыеўна заўважыла:

— І праз гады я быццам адчуваю цяпло той сустрэчы з Мікітам Ільічом у вёсцы Арэхава. Бо патомны граф Талстой аказаўся простым, адкрытым, добразычлівым і вельмі таварыскім чалавекам. Я гатовая была забыць родны дыялект на карысць рускай мовы, а пасля сустрэчы адчула гонар, што валодаю ім. Болей за тое, я навучыла матчынай мове сваіх дзяцей — Наташу і Юру. І, дзякаваць Богу, яны не грэбуюць родным словам!..

*З нагоды*

# Кропка супрацоўніцтва

Расійскі цэнтр навукі і культуры, які адкрыўся ў Мінску адносна нядаўна — яму крыху больш за два гады — стаў яшчэ адной выдатнай пляцоўкай для самых розных беларуска-расійскіх праектаў і мерапрыемстваў. Пацвярджэнне таму — дзве імпрэзы: адна, што адбылася напрыканцы мінулага тыдня, і другая, запланаваная на наступны.

Да Сусветнага дня паэзіі ў Цэнтры правялі літаратурную вечарыну. Сярод ганаровых гасцей — прафесар Вадзім Салееў, які прапанаваў своеасаблівы агляд гісторыі паэзіі і яе сучаснага стану. А пасля, натуральна, гучалі вершы — фрагменты дакументальнага праекта тэлеканала «Культура» «Паслухайце!», калі вершы вядомых паэтаў чыталі не менш вядомыя артысты, і спробы пяра прысутных на літаратурнай вечарыне творцаў.

Зрэшты, імпрэза з нагоды дня паэзіі не абмежавалася размовамі пра яе. У гэты ж дзень удзельнікі мерапрыемства ўсклалі кветкі да помнікаў двум выдатным творцам — Янку Купалу і Аляксандру Пушкіну.

Арганізаваная да Сусветнага дня паэзіі, імпрэза асаблівае гучанне набыла і ў сувязі з Днём яднання Беларусі і Расіі, які адзначаецца 2 красавіка. Дарэчы, у гэты дзень у Цэнтры зноў збяруцца творцы — за «круглым сталом», тэма якога акрэслена як «Беларусь-Расія: вопыт і перспектывы літаратурнага супрацоўніцтва». Мяркуецца, удзел у ім возьмуць вядомыя рускія аўтары У. Бярэзеў, В. Казакоў, А. Казінцаў, А. Каждуб, беларускія — М. Мятліцкі, Р. Баравікова, М. Пазнякоў, А. Савіцкі, А. Карлюкевіч, Т. Сівец і А. Бадак. Да абмеркавання тэмы запрошаны таксама прадстаўнікі беларускіх грамадскіх аб'яднанняў расійскіх суайчыннікаў.

**Алеся БАЦЮСЬ**

# Феномен Івана Мядзведзева

**Алесь СУХАДОЛАЎ**



*Іван Мядзведзеў.*

Сёлета спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння мастака і архітэктара Івана Мядзведзева. З гэтай нагоды ладзіцца шэраг мерапрыемстваў па ўшанаванні памяці выбітнага дзеяча культуры Беларусі, члена Саюза мастакоў і Саюза архітэктараў СССР. У сакавіку адкрыліся яго персанальныя выстаўкі ў Мінску ў галерэі «ЛаСандр-арт» і Гомелі ў Карціннай галерэі Г. Вашчанкі, у ліпені работы майстра будуць экспанавацца ў Нацыянальным мастацкім музеі разам з творамі іншых 100-гадовых мастакоў-юбіляраў, а ў верасні Музей гісторыі Мінска прадставіць серыю пейзажаў з выявамі сталіцы 50-х гадоў.

Кропкай адліку для ўрачыстасцей стала выстаўка «Паэзія белых начэй» у сталічнай галерэі «ЛаСандр-арт». У экспазіцыі прадстаўлены акварэлі І. Мядзведзева 40 — 50-х гадоў мінулага стагоддзя з прыватнай калекцыі дачкі мастака І. Кузняцовай. Работы аб'яднаны тэмай краявідаў Прыбалтыкі. У творчасці майстра знайшлі сваё адлюстраванне пейзажы Санкт-Пецярбурга з яго паркавымі прысадамі, дзе ў Інстытуце імя Рэпіна І. Мядзведзеў атрымліваў адукацыю мастака-архітэктара; Вільні з яе гістарычнымі забудовамі, дзе прайшоў першы перыяд творчай дзейнасці аўтара; Рыгі з яе вузкімі вулачкамі і еўрапейскай архітэктурай. Акрамя ўласна гарадскіх пейзажаў значнае месца ў творчай спадчыне мастака займаюць выявы прыморскіх краявідаў Палангі і Дзінтары, замалёўкі з побыту латышскіх рыбакоў.

*«Рыжскае ўзмор'е. Снасці рыбакоў» (1951).*

І. Мядзведзеў быў вядомы пераважна як архітэктар. У 1959 г. яго запрасілі з Вільні ў Мінск для кіравання работамі па рэканструкцыі горада. Менавіта ў гэты час пры адміністрацыях гарадоў Савецкага Саюза ўводзілася пасада галоўнага мастака з мэтай упарадкавання архітэктурна-мастацкага афармлення, І. Мядзведзеў працаваў на гэтай пасадзе пры Мінгарвыканкаме з 1959 па 1967 год. У жывапісных творах аўтара тэма архітэктуры прадстаўлена досыць шырока. Высокі ўзровень культуры горадабудаўніцтва ў Прыбалтыцы натхняў мастака на творчасць. Яго акварэлі маюць і гістарычную каштоўнасць, бо з'яўляюцца своеасаблівым дакументам эпохі: аўтар дакладна ўзнаўляў не толькі асаблівасці архітэктуры, але і элементы стафажу (характэрна апранутыя фігуры людзей і г. д.).

Аднак не толькі гэтыя вартасці робяць акварэльны жывапіс юбіляра цікавым для сённяшняга гледача. Справа ў мастацкай каштоўнасці работ. І. Мядзведзеў з'яўляецца прадстаўніком ленінградскай мастацкай школы (вучыўся ў славутага савецкага графіка К. Рудакова). Узровень яго рэалістычнага жывапісу з'яўляецца, на жаль, недасягальным для многіх сённяшніх творцаў.

Калі кампазіцыйная пабудова некаторых твораў, прадстаўленых на выстаўцы, характарызуецца падабенствам (напрыклад, у цэнтры многіх выяў — перспектыва гарадской вулачкі з аркай), то ў тэхніцы выканання работ назіраецца неадназначнасць. У гэтым сэнсе найбольш вылучаецца «Вільня. Вул. Вітаўта» (1955), што сваімі рэзкімі контурамі, чорна-белай афарбоўкай нагадвае графічны афорт. Акварэлям ранняга перыяду творчасці І. Мядзведзева найбольш уласцівы лірычны пачатак. Пейзажы «Ленінград. Елагін востраў» (1945) і «Ленінград. У старым парку» (1945) выступаюць своеасаблівым камертонам, што задае фон для гучання іншых работ.

У цэлым творчасць І. Мядзведзева прасякнута тым жыццесцвярджальным пачаткам, які яскрава праявіўся ў савецкім пасляваенным мастацтве. Гэтая акалічнасць выклікае ў сучаснага гледача непадробнае настальгічнае пачуццё.

# Канец свету і стогны чалавечых душ

Канец свету, які так чакалі напрыканцы мінулага года, адбыўся ў асобна ўзятым прэм'ерным спектаклі рэжысёра Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа «Візіт дамы» (пастаноўка Уладзіміра Савіцкага) па аднайменнай п'есе вядомага швейцарскага драматурга Фрыдрыха Дзюрэнмата. Не знешняя катастрофа, але апакаліпсіс чалавечых душ напаткае тых, хто страціў розум і сумленне, — сцвярджае праз трагічную драму аўтар.

**Георг КАРЖАНЕЎСКІ**

Мультымільянерка Клара Цаханасьян прыязджае ў Богам забыты горад, каб раскватацца са сваім былым каханкам, які здрадзіў ёй некалькі дзесяцігоддзяў таму. Яркая, эмацыянальная ігра народнай артысткі Беларусі Святланы Акружной выдатна перадае ўпэўненасць гераіні ў праве на злачынства. «Слупы горада» выглядаюць бездапаможнымі прадстаўнікамі ўсяго "чалавечага статка", іх няўпэўненасць выдае адсутнасць сумлення, непазбежнасць выпрабавання Мамонай ставіць крыж на будучыні горада. Асцярожны і нерашучы Бургамістр (Р. Шацько), стрыманы і шаноўны Святар (В. Дашкевіч), просты і паслужлівы Настаўнік (П. Ламан), бесклапотны Паліцэйскі (Ю. Цвірка) — усе сталі саўдзельнікамі злачынства, з-за якога горад паглынуў змрок апакаліпсісу.

Усеагульная нявызначанасць выдатна перадаецца атмасферай вакзала, якую стварае сцэнічнае вырашэнне з дзвярыма, што круцяцца ў стальной канструкцыі пад выразны гук цягнікоў. Дарэмнасць людскога энтузіязму, няўстойлівасць быцця, чаканне трагедыі — пачуцці, якімі паступова пранікаюцца гледачы.

Барвовая жанчына Апакаліпсісу... Вялікая блудніца, пра якую напісана ў «Адкрыцці апостала Яна Багаслова», «Кнізе Закона» А. Кроўлі і «Ружы Свету» Д. Андрэева. Гэты пазачалавечы архетып знайшоў вычарпальнае сцэнічнае ўвасабленне ў вобразе, створаным С. Акружной. Сама Клара Цаханасьян не Барвовая жанчына, але яна, праява апакаліптычнага вобраза, дэманструе асэнсаванасць выбару чалавекам цёмнага боку жыцця. Чырвоны касцюм гераіні, якая прапануе гораду мільярд за жыццё таго самага каханка Альфрэда Іла, выглядае сімвалічна. Нягледзячы на крыкі і абурэнні натоўпу, становіцца зразумела, што час Барвовай жанчыны неўзабаве прыйдзе.




Фота Антона Сцепаніччава

*С. Акружная ў ролі Клары Цаханасьян. На першым плане — В. Салаўёў у вобразе Іла.*

Цікава параўнаць спектакль з аднайменным фільмам М. Казакова, які пабачыў свет у 1989 годзе. Неадпаведнасць Іла, вобраз якога ўвасобіў Валянцін Гафт, жыхарам горада, разуменне факта, што яго ўсё адно «здадуць», мела характар палітычнага асэнсавання рэчаіснасці. Выканаўца аналагічнай ролі ў тэатры Валянцін Салаўёў дэманструе больш філасофскі падыход. Яго герой стойка прымае непазбежнае. У адрозненне ад Кацярыны Васільевай, якая ў мастацкім фільме паказвае сваю гераіню Клару пазбаўленай чалавечага пачатку, Святлана Акружная стварае эмацыянальны, напоўнены перажываннямі вобраз. Яе Клара кахае і жадае быць каханай, але, прайшоўшы праз разбуральную школу лёсу, можа несці толькі смерць.

Вялікія грошы разбэшчваюць перш за ўсё тых, хто мае ў іх патрэбу. І трагедыя — у дэвальвацыі розуму і сумлення. Такая доля спасцігла і жыхароў мястэчка Гюлена. Фінальная сцэна дэманструе жахлівую развязку: пасля гібелі Іла на гараджан сыплюцца купюры, тыя спяшаюцца іх злавіць і распачынаюць бойку. У выніку ўсіх спасцігае смерць, і слугі Клары — грамілы Тобі (А. Качан) і Робі (Я. Лук'янаў) — складваюць іх штабялямі. Чуецца гудок цягніка: Клара з'язджае, забраўшы з сабой тысячы душ, што прадалі самі сябе. Апакаліпсіс адбыўся. Далей — роздум. Гледача.

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 3000 рублёў

Наклад — 2762
Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк 28.03.2013 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 1024

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

